незалежная газета

№ 17 (806) 1 мая 2013

www.nn.by

Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

# ПРОСТА ВЫЗВАЛІЦЕ ІХ!

# Любоў не скончаецца словамі: велікодны зварот айца Аляксандра Надсана

Першыя крокі Папы Францішка выклікалі шмат каментароў у сусветнай прэсе.

Не абышлося і без крытыкі, асабліва з боку некаторых царкоўных дастойнікаў, якім не вельмі быў даспадобы ягоны сціплы спосаб жыцця, а таксама ягоная любоў бедных, якая не скончаецца толькі словамі і ў якой некаторыя хацелі бачыць паказуху.

А між іншым Папа не зрабіў і не робіць нічога, чаго не рабіў Той, чыім намеснікам на зямлі ён з'яўляецца і які сказаў: «Лісы маюць норы, птушкі нябесныя — гнёзды свае, а Сын Чалавечы не мае, дзе б галаву прытуліць» (Лк 9:58).

Ягоная асоба і навучанне не супадалі з уяўленнем чаканага Збаўцы сярод тых, якія ўважалі сябе духоўнымі праваднікамі і настаўнікамі свайго народа. Сапраўды, «Прыйшоў да сваіх, і свае Яго не пазналі»(Ян 1:11); і не толькі не пазналі, але адкінулі і ўзненавідзелі, і сталі прычынаю Ягонай крыжовай смерці. І ў гэтым вялікая трагедыя абранага народа.

Але магіла і смерць не маглі ўтрымаць Таго, хто сказаў пра сябе: «Я — уваскрасенне і жыццё» (Ян 11:25). Госпадзі Бог наш Ісус Хрыстос устаў з мёртвых на трэці дзень, абнавіўшы сваім устаннем увесь сусвет і даючы нам дарогу да вечнага і непрамінальнага жыцця з Богам.

Вялікдзень — доказ усеабдымнай Божай любові да людскога роду, любові, несумяшчальнай з ніякімі праявамі злосці ці нянавісці да каго-колечы.

Узгадаем малітву Хрыста за тых, што яго ўкрыжавалі: «Ойча, прабач ім, бо яны не ведаюць, што чыняць» (Лк 23:34). Гэтыя словы даюць нам шмат да роздуму.

Пра гэта гаворыцца і ў песні, якую спяваем падчас Велікоднай службы:

«Уваскрасення дзень!
Прасветлімся ўрачыстасцю і адзін аднаго абдымем; скажам «Браты» і тым, што ненавідзяць нас, прабачыўшы ўсё дзеля ўваскрасення; і ўсклікнем вось так: Хрыстос уваскрос з мёртвых, смерцю смерць зваяваў і тым, што ў магілах, жыццё дараваў».

**а. Аляксандар Надсан, апостальскі візітатар для беларусаў замежжа, Вялікдзень 2013**


PHOTO BYMEDIA.NET

# «Краіна Беларусь» выйшла па-англійску і па-расейску

У славацкім выдавецтве Kalligram выйшаў у свет англійскі пераклад папулярнай кнігі Уладзіміра Арлова і Змітра Герасімовіча «Краіна Беларусь» — This country called Belarus. An illustrated history. Гэта — першае англійскамоўнае выданне такога кшталту, прысвечанае гісторыі Беларусі і створанае беларускімі аўтарамі. Адначасова тое самае славацкае выдавецтва выпусціла рускамоўны пераклад «Краіны Беларусі».

Абодва выданні паступілі ў кнігарні.

**СМ**




## Падзякі

М.Б., Мікалаю К. з Полацкага раёна.
В.М. са Стаўбцоўскага раёна.
Аксане Д. з Пінскага раёна.
В.М. з Лепельскага раёна.
Івану С. з Дзятлаўскага раёна.
М.С. з Вілейскага раёна.
В.Г., А.Б., Аляксандру П., Васілію М. з Мінскага раёна.
Уладзіміру Б., Валерыю П. з Баранавіцкага раёна.
А.К. са Смалявіцкага раёна.
В.Б. са Светлагорскага раёна.
Аляксандру К. з Магілёва.
Васілію Б. са Шчучынскага раёна.
Г.Л., Эдуарду С., Генадзю К. з Гродна.
Віталію К. з Лагойскага раёна.
Уладзіміру Д. з Барысаўскага раёна.
Сяргею А. з Крычаўскага раёна.
Валянціне А., Фёдару К. з Талачынскага раёна.
Юрыю Б. з Віцебска.
Сяргею Д., Мікалаю Р. з Бярозаўскага раёна.
Аркадзю К. з Івацэвіцкага раёна.
Сяргею Ш., У.Б. з Гомеля.
Мікалаю В., Уладзіміру М., Міхаілу Ш., Валерыю Б. з Брэста.

## Апытанне на nn.by

**Што вас найбольш раздражняе ў Мінску?**

| | | |
|---|---|---|
| Пануе чужая мова | 1953 | 30% |
| Зашмат машын, замала паркован | 1070 | 17% |
| Замала даступных кавярняў | 907 | 14% |
| П'яныя на вуліцах | 821 | 13% |
| Брудныя прыбіральні | 773 | 12% |
| Кепская інфраструктура ў прыватным сектары | 433 | 7% |
| Гразюка на тратуарах | 358 | 6% |
| Ды ў Мінску ўсё... ОК! | 168 | 3% |

Усяго прагаласавала 6 483 чалавекі, можна было даваць некалькі варыянтаў адказу.

## Не ўсё ў жыцці апошні раз

# Дык падпісвайся!

### Падпіска праз Рэдакцыю

Цана падпіскі праз Рэдакцыю на месяц складае 15000 рублёў.

Мы рэкамендуем падпісвацца праз Рэдакцыю.

Наша сістэма дастаўкі газеты за 6 гадоў даказала сваю надзейнасць. Мы зможам дастаўляць Вам газету хутчэй або з той жа хуткасцю, што «Белпошта».

**Каб штотыдзень атрымліваць газету, дасылайце адрасы і грошы за газету.**

1) Просім усіх ахвотных падпісацца паведамляць у Рэдакцыю свае адрасы і тэлефоны. Гэта можна зрабіць праз: тэлефоны: (017) 284-73-29, (029) 260-78-32, (029) 618-54-84, e-mail: dastauka@nn.by, паштовы адрас: 220050, г.Мінск, а/с 537.

2) Просім у бланку банкаўскага паведамлення ці паштовага перакazу дакладна і разборліва пазначаць адрас, у тым ліку паштовы індэкс і код пад'езда.

**Банкаўскія рэквізіты:**

ПВУП «Суродзічы», УНП 190 786 828

Аддз. № 539 ААТ «Белінвестбанк», вул. Калектарная, 11, Мінск, код 739

Рахунак атрымальніка: 3012 740 628 011

Від аплаты: За газету «Наша Ніва»

### Падпіска праз «Белпошту»

**Падпісацца можна і ў кожным паштовым аддзяленні:**

індывідуальная падпіска (індэкс у каталозе — 63125) — 15750 руб./месяц;

для прадпрыемстваў (індэкс — 631252) — 18911 руб./месяц.

## Сціісла

### Немаўля выратавала ад гвалтоўнай смерці бацьку-таксіста

У Маладзечне двое рабаўнікоў напалі на 27-гадовага таксіста. Яны пачалі душыць кіроўцу, а той стаў жаліцца, што яго сямімесячнае дзіця застанецца сіратой. Адзін са зладзеяў зжаліўся. Таксіста развязалі і выкінулі з машыны. Рабаўнікоў затрымалі.

### На Лунінеччыне бабёр напалохаў прыбіральшчыцу

Жывёла выйшла ў цэнтр вёскі Красная Воля і ўладкавалася на начлег каля сельскага Дома культуры. Прыбіральшчыца падумала, што гэта сабака, і вырашыла сагнаць яго з месца. Калі ж разгледзела бабра, напалохалася і выклікала МНС. Ратавальнікі загналі бабра ў бліжэйшы вадаём струменем вады з брандспойта.

### Каралева Нідэрландаў адраклася ад трона

Паўнамоцтвы 75-гадовай Беатрыкс перайшлі да яе 46-гадовага сына Вілема-Аляксандра. Ён стане першым каралём Нідэрландаў за больш чым 120 гадоў. Раней краіну ўзначальвалі ягоныя маці, бабуля і прабабуля.

### У Брэсце памёр кіраўнік казахстанскага горада

Цела 60-гадовага Еркебулана Нашарава, акіма Абайскага раёна Карагандзінскай вобласці, знайшлі ў гатэлі «Інтурыст». У Брэсце ён быў у камандзіроўцы. Прычына смерці — сардэчны прыступ. Цела акіма даставілі ў Казахстан, дзе яго і пахавалі.

**ЯМ**

## Рэкамендуем

### Замест вуліц — рэкі, а на месцы гародаў — сапраўднае мора.

Відэарэпартаж з затопленай Гомельшчыны.

### 20 красавіцкіх здымкаў

Штомесячная фотасправаздача Сяргея Гудзіліна.

**Глядзіце на nn.by**

## Самае чытанае на nn.by за 24 — 30 красавіка 2013

1 «Чарнобыльскі шлях» — анлайн, фота, відэа
2 Беларускія прозвішчы на 300 гадоў старэйшыя за расійскія
3 Узламаны belaruspartisan.org: хакеры пакінулі «пасланне»
4 Бойня ў расійскім Белгарадзе
5 Іна Жыркова адмовілася ад кароны «Місіс Расія» пасля інтэрв'ю
6 Бомба жывой Беларусі
7 Сэксуальны скандал у Сербскай праваслаўнай царкве
8 Леанід Барткевіч: Лукашэнка — гэта талент, які нараджаецца раз у сто гадоў
9 Паўла Шарамета звольнілі з украінскага тэлеканала
10 Новы цягнік Мінск—Вільня, які будзе ездзіць ад 26 мая — фота

# Палітвязні: факты і лічбы

Наяўнасць у Беларусі палітзняволеных стала адным з галоўных палітычных пытанняў у адносінах Беларусі з Еўрасаюзам і ЗША. Але галоўнае, палітвязні — адна з асноўных метак, па якіх і беларускае грамадства, і сусветная грамадская думка, і міжнародны бізнэс ідэнтыфікуюць Беларусь як аўтарытарную дыктатуру. Наяўнасць палітвязняў красамоўна сведчыць: у краіне ёсць апазіцыя, ёсць пратэст і ёсць сілы, якія арганізавана дзейнічаюць на карысць перамен.

У краінах Цэнтральнай Еўропы (Польшча, Чэхія, Балгарыя), як і ў многіх краінах Паўднёва-Усходняй Азіі (Інданэзія, Паўднёвая Карэя) ці — апошнія гады — арабскага свету (Туніс, Егіпет) — былыя палітвязні пасля змены палітычнай сістэмы пачалі адыгрываць цэнтральную ролю ў палітычным жыцці.

Сем'і палітвязняў чакалі, што хтосьці з іх выйдзе на свабоду — а пажадана, усе — на Вялікдзень. Год таму на гэтае свята выпусцілі Андрэя Саннікава і Змітра Бандарэнку. Пасля словаў Лукашэнкі пра тое, што ўмовай вызвалення застаецца прашэнне аб памілаванні на ягонае імя, гэтыя надзеі развеяліся. Зрэшты, у мінулым палітычных праціўнікаў выпускалі і без прашэнняў і рабілі выгляд, што так і трэба. У кожным разе, увага застаецца на 11 асобах, што застаюцца ў турмах за палітыку.

Хто гэтыя людзі? Адкуль яны? Хто яны па поглядах?

Для гэтага спецыяльнага нумара «Нашай Нівы» мы прааналізавалі біяграфічныя звесткі пра 63 асобы, якія прайшлі праз турмы ці палітычна матываваныя крымінальныя справы за 2009—2013 гады, за «найноўшы перыяд» кіравання Аляксандра Лукашэнкі. Статыстыка абвяргае многія стэрэатыпы, часам яна ашаламляе.



Бяляцкі Алесь. На момант арышту 48 гадоў. Нарадзіўся ў сям'і беларусаў-мігрантаў, рабочых у Карэліі, вырас на Гомельшчыне. Праваабаронца. Стварыў фонд для дапамогі рэпрэсаваным, быў асуджаны за нясплату падаткаў з гэтых грошай. Фармальнай падставай для асуджэння было тое, што ён збіраў сродкі на прыватныя рахункі, бо адкрыць афіцыйны рахунак у Беларусі было немагчыма. Бяляцкі намінаваны на Нобелеўскую прэмію міру. Застаецца ў турме.

**182 асобы**

за 1995—2013 трапілі пад крымінальны пераслед за палітыку.

**63 асобы**

з іх за 2009—2013.

**Каля 6000 чалавек**

складае лічба адміністратыўна пакараных і звольненых з працы, вучобы па палітычна матываваных справах за 1995—2013.

## Найбольш — за вулічны выступ



Мікола Статкевіч. Адстаўнік-вайсковец (ракетчык), паўторна зняволены, 54 гады на момант арышту, родам з засценка праваслаўнай шляхты ў Слуцкім раёне, сацыял-дэмакрат. Быў кандыдатам у прэзідэнты. З калоніі яго кінулі ў турму, даходзіць інфармацыя, што да яго ўжываліся сродкі псіхалагічнага ўздзеяння. Прашэння аб памілаванні не падпісаў. На фота: у судзе.

**Палітычныя справы 2009–2013, колькасць фігурантаў**

- Справа Аўтуховіча 2
- Справа анархістаў 3
- Справа атакі на КДБ у Бабруйску 3
- Справа Плошчы 51
- Справа Пачобута 1
- Справа Бяляцкага 1
- Справа мядзведзікаў 2

Канечне, масавыя, вулічныя акцыі пратэсту разглядаюцца рэжымам як найбольшая патэнцыйная небяспека.

**Улада: прызнае і не прызнае палітычнымі**

Афіцыйна — крымінальнікі

Неафіцыйна вядзецца гандаль

У краіне павінен быць «галоўны палітвязень»?

Некаторыя «крэмлезнаўцы» разважаюць, што наяўная палітычная мадэль прадугледжвае, што «для стабільнасці ўлады» патрэбны хаця б адзін палітвязень. Каб іншым было «непаважна». Хто ён, гэты «галоўны», залежыць ад таго, якую сацыяльную групу трэба трымаць у найбольшым страху. У розны час у гэтай ролі былі Васіль Лявонаў — звязаны са старой, савецкай наменклатурай, Міхаіл Марыніч — блізкі да кола Міхаіла Мясніковіча, лідары моладзі, журналісты, «дэзерцір з шэрагаў рэжыму» Аляксандр Казулін, былы афганец і прадпрымальнік Мікалай Аўтуховіч. На сёння такім застаецца арганізатар Плошчы Мікалай Статкевіч.

## Розных палітычных перакананняў

- «Хадэкі» 7
- «Малады Фронт» 7
- «Еўрапейская Беларусь» 10
- Сацыял-дэмакраты 2
- Ліберcaлы з Аб'яднанай грамадзянскай партыі 4
- Рух «За Свабоду», БНФ, КХП-БНФ 4
- Камуніст 1
- «Гавары праўду» 6

Тут лічба залежыць ад таго, хто быў найбольш заангажаваны ў падрыхтоўку Плошчы. Але выразна відаць, што ідэалагічны спектр апазіцыі вельмі шырокі. Якія ідэі ёсць у грамадстве, такія ёсць і ў апазіцыі.



Аліневіч Ігар. Анархіст. 27 гадоў на момант арышту. Па спецыяльнасці інжынер-электроншчык. Мінск.

## «Рэцыдывісты»



Сярод 63 вязняў 5 «пайшлі на другую ходку», а яшчэ адзін раней не быў зняволены, але прайшоў праз крымінальную справу. Гэта сведчыць пра моцную матывацыю і ўсвядомлены маральны выбар многіх людзей.

Зміцер Дашкевіч. Паўторна зняволены лідар «Маладога Фронту». Нарадзіўся ў вёсцы Івацэвіцкага раёна. 29 гадоў на момант арышту. Застаецца ў турме.

**Атрошчанкаў Аляксандр**

29 гадоў на момант арышту. Нарадзіўся ў Мінску. Прэс-сакратар Саннікава.

**Асіпенка Уладзімір**

Калега Аўтуховіча. Вайсковец-адстаўнік з Ваўкавыска.

**Бандарэнка Зміцер**

47 гадоў на момант арышту. Нарадзіўся ў Мінску. Скончыў Інстытут фізкультуры. Каардынатар кампаніі Саннікава. Журналіст-палітык.

**Барановіч Святаслаў**

Нарадзіўся ў Вілейскім раёне Мінскай вобласці. Будаўнік. 24 гады на момант арышту.

**Башарымаў Сяргей**

28 гадоў на момант арышту. Рыэлтар з Мінска. Арыштаваны выпадкова.

**Брэус Арцём**

27 гадоў на момант арышту. Грамадзянін Расіі. Нарадзіўся ў Мінску, вырас у Эстоніі. Жыў і працаваў у Мінску — на радзіме свайго бацькі, вядомага тэлевізійнага рэжысёра.

**Буланаў Зміцер**

26 гадоў на момант арышту. З Мінска. Скончыў медыцынскі каледж, працаваў медбратам у інфекцыйнай бальніцы. Вучыўся ў Інстытуце сучасных ведаў на факультэце мастацтваў, вывучаў выканальніцкае майстэрства.

**Вазняк Сяргей**

48 гадоў на момант арышту, адстаўны вайсковец, журналіст.

**Васілевіч Ілля**

19 гадоў, родам з Баранавіч. Вучыўся ў Мінскім політэхнічным каледжы.

**Вінаградаў Павал**

22 гады на момант арышту. Гадавала яго бабуля. Скончыў прафесійна-тэхнічны ліцэй на цырульніка. Пасля вызвалення працягвае актыўную вулічную барацьбу за грамадзянскія свабоды.

**Гнедчык Алег**

Нарадзіўся ў Мінску. Меў 24 гады на момант арышту.

**Даронін Зміцер**

Жыхар Мінска. 28 гадоў на момант арышту. Скончыў ПТВ, працаваў слесарам на МАЗе. Выгадаваўся ў шматдзетнай сям'і, у якой васьмёра дзяцей, палова з якіх у 2010—2011 гг. былі малалетнімі. Бацька ў яго — інвалід першай групы, таму Зміцер быў адным з асноўных кармільцаў у сям'і.

**Дзмітрыеў Андрэй**

Нарадзіўся ў Мінску. 29 гадоў на момант арышту. Вучыўся ў Еўрапейскім гуманітарным універсітэце на факультэце філасофіі. У 2005—2009 меў свой уласны бізнес, быў дырэктарам кансалтынгавай кампаніі. Выступіў з тэлезваротам, у якім асудзіў Плошчу, пасля чаго быў вызвалены.

**Дзядок Мікалай**

22 гады, анархіст, сын суддзі, нарадзіўся ў Брагіне на Гомельшчыне. Скончыў юрыдычны каледж БДУ. Працаваў у калектарскай фірме. Застаецца ў турме.

**Дрозд Зміцер**

37 гадоў. Нарадзіўся ў вёсцы Дразды Мінскага раёна (у 1976 увайшла ў склад Мінска). Скончыў Мінскі тэхналагічны тэхнікум і гістфак БДУ.

**Каваленка Сяргей**

35 гадоў на момант арышту. Жыхар Віцебска. Прыватны прадпрымальнік-будаўнік. Справа за тое, што павесіў бел-чырвона-белы сцяг на калядную яліну на цэнтральнай плошчы.

# Палітвязні:

**Казакоў Сяргей**

18 гадоў на момант арышту. Нарадзіўся ў Расіі, вырас у Мінску, на радзіме маці. Музыка.

**Квяткевіч Аляксандр**

23 гады на момант арышту. Рабочы з Мінска, працаваў на вытворчасці кампрэсараў для машын.

**Кіркевіч Алесь**

21 год на момант арышту. З Гродна.

**Класкоўскі Аляксандр**

32 гады на момант арышту, з Мінска, з сям'і журналістаў. Міліцыянт з вышэйшай юрыдычнай адукацыяй, а пасля прадпрымальнік.

**Кобец Уладзімір**

39 гадоў на момант арышту, родам са Слоніма. Мае дзве вышэйшыя адукацыі: географа-эколага і менеджара-эканаміста.

**Корбан Алег**

25 гадоў на момант арышту. З Мінска. На выбарах 2010 быў кіраўніком штаба кандыдата Ярослава Раманчука па Мінску.

**Ліхавід Мікіта**

20 гадоў на момант арышту. Вучыўся на юрфаку завочна. Пасля вызвалення займаецца дапамогай вязням — розным, не толькі палітычным.

**Лобан Уладзімір**

32 гады на момант арышту. Нарадзіўся ў Хойніках на Гомельшчыне. Пасля Чарнобыля сям'я пераехала ў Віцебскую вобласць, горад Верхнядзвінск. Скончыў Беларускі дзяржаўны тэхналагічны ўніверсітэт.

**Лябедзька Анатоль**

Паўторна хадзіў пад крымінальнай справай. 49 гадоў на момант арышту. Лідар АГП. Родам з вёскі Трылес Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў там школу, тры гады працаваў механізатарам у калгасе імя Суворава ў сваім раёне. Пасля скончыў факультэт гісторыі і французскай мовы Мінскага педуніверсітэта.

**Малчанаў Аляксандр**

22 гады на момант арышту. Жыў у Барысаве. З-за сына маці Галіне Андрэеўне не працягнулі кантракт на працы.

**Марцалеў Сяргей**

Мінск, 33 гады на момант арышту. З сям'і патомных навукоўцаў. Унук Станіслава Марцалева, кіраўніка Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук, і акадэміка-філосафа Леаніда Яўменава.

**Мацукевіч Віталь**

23 гады на момант арышту. З Мінска. Вучыўся ў Беларускім інстытуце правазнаўства, які ў 2010 годзе павінен быў скончыць.

**Міхалевіч Алесь**

35 гадоў на момант арышту, з Мінска. Палітолаг-юрыст. Кандыдат у прэзідэнты. Першым абвінаваціў КДБ у катаваннях зняволеных, выехаў у эміграцыю.

**Новік Зміцер**

29 гадоў на момант арышту. Родам з Баранавіч. Працаваў ахоўнікам. Вучыўся ў Акадэміі фізічнай культуры.

**Пазняк Андрэй**

33 гады на момант арышту, электраманцёр, з Жодзіна. Сын вядомага футбольнага трэнера.

**Парфянкоў Васіль**

27 гадоў на момант арышту, Мінск, аўтаслесар.

**Паўлаў Анатоль**

61 год, родам з Выбарга (Расія), з сям'і вайскоўца. Былы прарэктар Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.

**Пракапенка Арцём**

20 гадоў на момант арышту, з Гродна, анархіст, навучэнец. Застаецца ў турме.

## Хто эміграваў?



Падчас следства ці пасля вызвалення выехалі з Беларусі Радзіна, Саннікаў, Міхалевіч, Кобец, Бандарэнка, Атрошчанкаў (6 з 63).

**Наталля Радзіна.** 33 гады на момант арышту. Родам з Кобрына, журналістка. Паходзіць з сям'і вайскоўца.

## Узрост на момант арышту

18—20 гадоў 11
21—30 гадоў 24
31—40 гадоў 13
41—50 гадоў 10
51—60 гадоў 3
61 і больш гадоў 2



Васьковіч Яўген. 20 гадоў, родам з Бабруйска. «За нацыянальныя каштоўнасці я памерці гатовы, бо жыццё кароткае, а радзіма вечная. Жыве Беларусь!» — сказаў ён на судзе. Хрысціянскі дэмакрат.

Лукашэнкаўскія СМІ стваралі стэрэатып, што на Плошчу ішлі «юнцы і адмарозкі». Між тым статыстыка абвяргае і гэты міф. Сярод «апошняга прызыву» палітвязняў былі людзі самых розных узростаў.

Гэтыя лічбы таксама ставяць пад сумнеў думку некаторых сацыёлагаў, што ў жыццё прыйшло «страчанае пакаленне», пакаленне, якое ампутавала сабе грамадзянскае пачуццё і падтрымлівае дыктатуру. «Ген бунту» гэтаксама праяўляецца ў маладых.

## Мала сілавікоў? Наадварот

Існуе меркаванне, што сілавікі цалкам падтрымліваюць аўтарытарную мадэль кіравання і прарасійскую палітыку. Статыстыка палітвязняў сведчыць, што гэта не так. Былых сілавікоў 5 з 63, а яшчэ трое (у тым ліку, Наталля Радзіна) — дзеці з сем'яў вайскоўцаў. Гэта больш, чым доля сілавікоў у насельніцтве.

У ліку гэтых пяці — Аўтуховіч і Асіпенка, якіх пасадзілі яшчэ перад выбарамі 2010, як мяркуюць палітолагі, у папярэджанне.



**Аўтуховіч Мікалай.** 46 гадоў на момант арышту. Прадпрымальнік, адстаўны вайсковец, былы афганец, папулярны ў сябе ў Ваўкавыску чалавек. Другое зняволенне.



Андрэй Саннікаў. 56 гадоў на момант арышту, дыпламат, Мінск, каардынатар грамадзянскай кампаніі «Еўрапейская Беларусь». Прэтэндэнт на пасаду прэзідэнта.

## З жанчыны

Палажанка, Халіп і Радзіна — гэта палітык і журналісткі-палітыкі.



**Дашкевіч (Палажанка) Наста**. Намесніца старшыні «Маладога Фронту». Студэнтка філасофіі і палітычных навук ЕГУ. На момант арышту 20 гадоў. З Мінска. У турме выйшла замуж за Дашкевіча. На фота: пасля абвяшчэння прысуду Дашкевічу. Побач з ёй — тата палітвязня.

## Сітуацыя ў лічбах і прозвішчах, або Палітычная арыфметыка на сёння

11 — палітычныя зняволеныя (Аліневіч, Аўтуховіч, Бяляцкі, Васьковіч, Дашкевіч, Дзядок, Лобаў, Пракапенка, Севярынец, Статкевіч, Францкевіч)/
2 — абмежаванне свабоды без накіравання ва ўстановы адкрытага тыпу (Мядзведзь, Барановіч).
8 — адбываюць пакаранне ў выглядзе ўмоўных тэрмінаў ці з адтэрміноўкай выканання (Вазняк, Дзмітрыеў, Марцалеў, Някляеў, Пачобут, Рымашэўскі, Фядута, Халіп).
3 — абвінавачаныя па крымінальных артыкулах (Міхалевіч, Сурапін, Башарымаў).
1 — пакуль нияснае абвінавачанне (Гайдукоў).
3 — устаноўлены судамі прэвентыўны нагляд (Вінаградаў, Парфянкоў, Яроменак).
25 — прафілактычны нагляд за памілаванымі і вызваленымі датэрмінова.
Судзімасць не знята з ніводнага асуджанага па палітычных матывах. Гэта азначае, што асуджаныя за арганізацыю і ўдзел у масавых беспарадках не могуць вылучаць свае кандыдатуры на выбарах на працягу 8 гадоў, за ўдзел у масавых беспарадках — на працягу 5 гадоў, за ўдзел у групавых дзеяннях, якія груба парушаюць грамадскі парадак, — 2 гадоў з моманту вызвалення (адбыцця пакарання).

Менавіта рэабілітацыя колішніх палітвязняў была паваротным момантам перамен ад Еўропы (Гавэл) да Паўднёвай Афрыкі (Мандэла) і М'янмы (Су Чжы).

# факты і лічбы

## Этнічнае паходжанне

За межамі Беларусі (Расія, Украіна, Літва) нарадзіліся 6 (з улікам Бяляцкага і Казакова).

Рознага паходжання тыя, што нарадзіліся ў Беларусі (Пачобут, Мірзаянаў ды інш.)



**Гапонаў Іван.** 22 гады. Нарадзіўся ў Сочы. Грамадзянін Расіі, мае від на жыхарства ў Беларусі і жыве тут з 1995 года (на момант падзеяў — у пасёлку Свіслач Пухавіцкага раёна Магілёўскай вобласці). Маці Сабіра Атакішыева родам з Кіргізіі, а бацька — з Расіі. Працаваў у керамічнай майстэрні ў Свята-Елізавецінскім праваслаўным манастыры.

## Хто па прафесіі?

Будаўнікоў 6

Праграмістаў 3

2 журналісты + 5 журналістаў, якія перакваліфікаваліся ў палітыкі і за палітыку трапілі за краты



Журналісты — заўжды ў групе рызыкі. На фота: **Андрэй Пачобут** двойчы прайшоў праз крымінальныя справы. 37 гадоў на момант арышту, журналіст, блогер і актывіст польскай меншасці, жыве ў Гродне, родам з Вялікай Бераставіцы.

Выразна відаць, што сярод палітвязняў найбольш прадстаўленыя людзі з тых сацыяльных групаў, якія добра зарабляюць і не залежаць ад дзяржавы, больш прадстаўленыя ў пратэставым руху. Уражвае вялікая доля будаўнікоў. Мусіць, яно ад таго, што менавіта ў гэтым сектары ў апошнія гады зараблялі найбольш. Да таго ж, будаўнікі найчасцей працуюць самі на сябе, а не на бюджэтным фінансаванні. Тое самае і з праграмістамі — тэхналагічнай элітай беларускага грамадства.



**Мядзведзь Зміцер.** 49 гадоў на момант арышту. Будаўнік з Мінска.

## Фізікі ці лірыкі?

Тэхнары 24

Гуманітарнікі 21

Іншыя (бізнэс, сілавікі, беспрацоўныя і г.д.) 18

Частае ўяўленне, што апазіцыйныя настроі распаўсюджаныя толькі ў асяроддзі інтэлігенцыі, пераважна гуманітарнай. Так, людзей гуманітарных прафесій няма, але сярод палітвязняў рэпрэзентаваныя самыя розныя прафесійныя групы.



**Андрэй Пратасеня.** 29 гадоў на момант арышту, праграміст з Мінска. Займаўся дабрачыннасцю — дапамагаў хворым людзям збіраць сродкі на аперацыі.



**Павал Севярынец.** 33 гады, хадэк, праваслаўны, родам з Оршы, па спецыяльнасці геолаг, паўторна зняволены.

## Апазіцыя — люстэрка грамадства

Апазіцыя — гэта каталікі і пратэстанты? Анічога падобнага. Каталікоў і пратэстантаў — 9. Гэта супадае з іх доляй у насельніцтве. Абсалютная большасць, 54 з 63, гэта праваслаўныя або абыякавыя да рэлігіі людзі.



**Арцём Грыбкоў**, рабочы. На момант арышту меў 22 гады. Нарадзіўся ў вёсцы Савашы Карэліцкага раёна. Скончыў будаўнічае СПТВ у Карэлічах. У райцэнтры працы няма, з'ехаў у Мінск. Працаваў грузчыкам і прэсоўшчыкам. Пісаў вершы па-беларуску. Трагічна загінуў у 2012-м, праз месяц пасля вяселля. Жонка чакае ягонае дзіця.

## Інтэлігенцыя?

Рабочых — розных спецыяльнасцяў — аж 12 чалавек, што адпавядае іх долі ў насельніцтве. Праўда, не заўважна прафсаюзных дзеячаў.

**Рымашэўскі Віталь**

35 гадоў на момант арышту, з Мінска. Кандыдат у прэзідэнты ад хрысціянскіх дэмакратаў. З турмы напісаў ліст Лукашэнку, пасля чаго быў вызвалены.

**Сакрэт Яўген**

44 гады на момант арышту. Па прафесіі — спецыяліст па лесагаспадарцы. Скончыў лесагаспадарчы факультэт тэхналагічнага ўніверсітэта.

**Сурапін Антон**

20 гадоў на момант арышту, студэнт-журналіст. Арыштаваны досыць выпадкова, бо першым у сваім блогу апублікаваў фоты мядзведзікаў пасля шведскага дэсанту. Родам са Слуцка.

**Сырамолатаў Павал**

Родам з Бабруйска, 19 гадоў, токар на металургічным заводзе.

**Ус Зміцер**

39 гадоў на момант арышту, бізнэсовец з Мінска, па адукацыі юрыст. Кандыдат у прэзідэнты.

**Федаркевіч Алег**

49-гадовы будаўнік з Мінска.

**Францкевіч Аляксандр**

20-гадовы праграміст, родам з Наваполацка.

**Фядута Аляксандр**

46-гадовы журналіст, паліттэхнолаг, палітык родам з Гродна.

**Халіп Ірына**

43-гадовая журналістка і палітык з Мінска. У турме была адарвана ад малога сына.

**Хамічэнка Уладзімір**

24 гады на момант арышту. Беспрацоўны бадзяга. Вырас у сіроцкім доме ў Старых Дарогах (Мінская вобласць). Дзіўны выпадак.

**Яроменак Уладзімір**

20 гадоў на момант арышту. Студэнт Універсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі з Мёраў (Віцебская вобласць).



**Уладзімір Някляеў.** 64 гады на момант арышту. Родам з Крэва, Смаргонскі раён. Паэт. Кандыдат у прэзідэнты. Бацька — Някляеў Пракофій Мікалаевіч, рускі, маці — Магер Настасся Іванаўна, беларуска.

# Палітвязні: факты і лічбы







Карта наяўнасці актывістаў нацыянальнага руху 1906—1915 (аўт. Андрэй Казакевіч, «Палітычная сфера»)

Як паказвае гэтая статыстыка, палітвязні — самая актыўная частка апазіцыі, пратэставага руху — паходзяць з самых розных сацыяльных груп. Яны розныя па веравызанні, яны выхадцы з розных рэгіёнаў і належаць да розных узростаў. Апазіцыя ёсць адбіткам грамадства.

Геаграфічна ж беручы, найбольш палітвязняў даў паўночны захад краіны, гістарычная база нацыянальнага руху. Калі мы супаставім карту паходжання палітвязняў з картай канцэнтрацыі актывістаў беларускага руху пачатку XX стагоддзя, яны супадаюць амаль дакладна. Тое самае супадзенне — і з картай галасавання за прабеларускіх ці прасавецкіх кандыдатаў у 1994.

У параўнанні з пачаткам XX стагоддзя да беларускай палітычнай карты дадалося Гродна. Там сто гадоў таму бытавала толькі расійская і польская свядомасць, а цяпер Гродна «беларусізавалася».

Пра што гэта сведчыць? Што цяперашняя апазіцыя ўзнікла не на пустым месцы. За апазіцыяй стаіць традыцыя. Апазіцыя мае карані ў грамадстве, базу, яна ёсць прадуктам гістарычнага выбару.

А іншы надзвычай значны факт — вялікая доля палітвязняў з Мінска. Беларуская ідэя, еўрапейская ідэя пранікла на ўвесь усход Беларусі і апанавалі сталіцу. А калі апазіцыйнымі настроямі прасякнута сталіца, гэта ствараe асаблівую палітычную сітуацыю.

Тым людзям, якія цяпер сядзяць у турмах, па-чалавечы вельмі цяжка. Але гэта яны, гаворачы словамі Янкі Купалы, «крывёй з сваіх грудзей» уносяць «долю сваю для ўсіх дабра».

## Хто адкуль родам




**Брэсцкая вобласць** 5 (з іх трое — Баранавічы, прычым гэтыя трое між сабой не звязаныя)

**Віцебская вобласць** 4 (Віцебск, Наваполацк, Мёры, Орша)

**Гомельская вобласць** 3 (калі ўключна з Бяляцкім). Прычым двое — перасяленцы з чарнобыльскіх раёнаў, Брагіна і Хойнікаў.

**Гродзенская вобласць** 9

**Магілёўская вобласць** 2, абодва Бабруйск

**Мінск** 28 (калі ўключна з Казаковым)

**Мінская вобласць** 8

**За межамі Беларусі** (Расія, Украіна, Літва) нарадзіліся 6 (з улікам Бяляцкага і Казакова). Апошні факт абвяргае часты стэрэатып пра этнічны характар ці шавінізм апазіцыі.



**Фёдар Мірзаянаў.** 20 гадоў на момант арышту, родам з Баранавіч. Вывучаў эканамічную кібернетыку ў БДЭУ. Баранавічы ўвогуле далі трох палітвязняў, а, калі браць рэгіён шырэй, з Верхняга Панямоння, уключна са Случчынай, паходзяць 9 палітвязняў.

**Родам з былой Заходняй Беларусі** 18 з 63.

**Слуцк** і Слуцкі раён 2

**Абсалютная большасць народжаных у Мінску** — бо тут падзеі адбываліся.

**Народжаных у вёсках** і малых гарадах — толькі 9. Туды палітычная актыўнасць яшчэ не дайшла.

## Павіншуй палітвязня з Вялікаднем: як тое зрабіць

За кратамі ў Беларусі ўтрымліваецца 11 палітвязняў. Яшчэ тры дзясяткі палітычных абмежаваныя ў правах, знаходзяцца пад умоўным пакараннем і г.д. Канечне, найцяжэй тым, хто ў турме. 5 мая будзе Вялікдзень — галоўнае свята надзеі. Павіншаваць палітвязня можна, адправіўшы ліст ці паштоўку, або патэлефанаваўшы з гарадскога тэлефона на нумар 166 і прадыктаваўшы тэкст. Расцэнкі мізэрныя.

Добрыя велікодныя паштоўкі прадаюцца, напрыклад, у спецыяльна зробленай крамцы ў цэнтральнай зале мінскага Галоўпаштамта.



**Лобаў Эдуард.** 22 гады на момант арышту. Нарадзіўся ў Вільні. Незадоўга да арышту скончыў службу ў арміі, у дэсанце. Застаецца ў турме.

**Ігар Аліневіч**
211440, Віцебская вобл., г. Наваполацк, вул. Тэхнічная, 8, папраўчая калонія №10

***

**Мікалай Аўтуховіч**
230023, г. Гродна, вул. Кірава, 1, турма №1

***

**Алесь Бяляцкі**
213807, Магілёўская вобл., г. Бабруйск, вул. Сікорскага, 1, папраўчая калонія №2, атрад №14.

***

**Яўген Васьковіч**
212011, г. Магілёў, вул. Крупскай, 99а, турма №4

***

**Зміцер Дашкевіч**
230023, г. Гродна, вул. Кірава, 1, турма №1

***

**Мікалай Дзядок**
212011, г. Магілёў, вул. Крупскай, 99а, турма №4

***

**Эдуард Лобаў**
225295, Брэсцкая вобл., г. Івацэвічы, «Воўчыя норы», а/с 20, папраўчая калонія № 22

***

**Арцём Пракапенка**
212013, г. Магілёў, Слаўгарадская шаша, 183, ПК №15

***

**Павал Севярынец**
225143, Брэсцкая вобл., Пружанскі р-н, в. Куплін, ПУАТ–7

***

**Мікола Статкевіч**
212011, г. Магілёў, вул. Крупскай, 99а, турма № 4

***

**Аляксандр Францкевіч**
225295, Брэсцкая вобл., г. Івацэвічы, «Воўчыя норы», а/с 20, папраўчая калонія №22

# Якая будаўнічая крама самая выгадная?

**Параўнанне цэн**
у папулярных прадаўцоў.




Будаўнічыя матэрыялы мяжуюць з таварамі для агарода.

Неўзабаве лета, а значыцца, беларусы зноў пачнуць рабіць рамонты ў кватэрах і на лецішчах. Зрэшты, гэты працэс часам становіцца бясконцым — мяжы дасканаласці няма. Аднак пытанне, дзе купляць будматэрыялы, паўстане незалежна ад стадыі рамонту. «Наша Ніва» вырашыла параўнаць цэны ў асноўных будаўнічых кропках.

Яшчэ ад 1990-х мінчукі ведаюць адрасы асноўных будаўнічых рынкаў — Ждановічы, Уручча і Малінаўка. На кожным — сотні шапікаў індывідуальных прадпрымальнікаў. Многія маюць свае кропкі на ўсіх трох рынках.

Аднак паспяховую канкурэнцыю рынкам цяпер складаюць будаўнічыя крамы. Першыя гіпермаркеты такога профілю з'явіліся ў Беларусі толькі ў 2010. Спачатку вялікую краму на выездзе са сталіцы ў гродзенскім накірунку адчыніла ААТ «Эрніс». Кампанія валодае сямю крамамі «Палас», якія знаходзяцца ва ўсіх абласных цэнтрах, апроч Гродна.

Услед з'явіўся «Ома», гіпермаркет на выездзе з Мінска ў бок Брэста. Сеткай валодае тандэм з літоўскай кампаніі Senukai і фінскага канцэрна KESKO. Ім належаць дзве крамы ў Мінску, а таксама па адной у Віцебску, Гомелі, Магілёве, Бабруйску, Баранавічах, Жлобіне і Лідзе.

Сярод іншых актыўных удзельнікаў рынку варта згадаць сетку «Навасёлкін» , у якую ўваходзяць сталічны гіпермаркет (выезд у бок Віцебска), а таксама драбнейшыя крамы ў Мінску і Гомелі. Сетка «Зрабі сам» мае ў сталіцы тры кропкі продажаў.

Не пакінем па-за ўвагай і праект Юліі Скарынінай, якая валодае будаўнічымі крамамі «Практык» у Гомелі, Бабруйску, Барысаве і Полацку. А ў сталіцы знаходзіцца яе «Склад на МКАД».

У спажывецкі кошык мы ўзялі дзясятак тавараў (гл. табліцу), якія спатрэбяцца для рамонту. Гэта папулярныя матэрыялы, якія сустракаюцца ў большасці крамаў.

За самую нізкую цану крама атрымлівала першае месца і 1 бал. За самы дарагі тавар альбо за яго адсутнасць крама магла атрымаць 5 балаў. Адпаведна, чым менш балаў, тым выгадней купляць у краме.

У выніку ў нашым рэйтынгу першае месца атрымала «Ома». У дадатак кампанія прапануе навасёлам (тым, хто нядаўна пабудаваў ці набыў кватэру) зніжку памерам 7% на год. Гэта робіць цану яшчэ больш прывабнай. «Навасёлкін» і «Зрабі сам» адсталі ад лідара ненашмат. Аднак не варта забывацца, што асартымент у крамах «Зрабі сам» меншы — сетка не мае гіпермаркетаў.

А вось «Склад на МКАД» і «Мацярык» у канцы рэйтынгу. Сярод пераваг апошняга застаецца ўзгадаць найбольшую ў краіне гандлёвую плошчу.

**Ягор Марціновіч**

**Дзе выгадней? ***

| | Ома | месца | Навасёлкін | месца | Зрабі сам | месца | Склад на МКАД | месца | Мацярык | месца |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Клеявы раствор «Люкс», «Тайфун», 25 кг | **40 900** | 1 | 41 800 | 2 | 42 150 | 3 | 42 300 | 4 | 42 900 | 5 |
| Мантажная пена Ceresit TS 62, 750 мл | 57 500 | 2 | 59 850 | 3 | **53 900** | 1 | — | 5 | 59 900 | 4 |
| Шпатлёўка белая «Люкс», «Тайфун», 15 кг | **65 500** | 1 | 75 500 | 4 | 72 350 | 2 | — | 5 | 74 900 | 3 |
| Клей шпалерны Metylan універсал, 500 г | 69 100 | 2 | 71 350 | 4 | **66 100** | 1 | 75 900 | 5 | 69 900 | 3 |
| Цэмент ПЦ 500, 25 кг | 42 100 | 5 | **31 800** | 1 | 34 400 | 2 | 40 000 | 3 | 40 900 | 4 |
| Тынкоўка Ceresit CT35 | 102 710 | 2 | **95 950** | 1 | — | 5 | 109 600 | 3 | 109 900 | 4 |
| Фуга Ceresit CE40 белая, 2 кг | **40 900** | 1 | 41 900 | 3 | 41 050 | 2 | 43 900 | 4 | 44 900 | 5 |
| Гіпс будаўнічы, 2 кг | 11 250 | 3 | 12 500 | 5 | 11 800 | 4 | **8 100** | 1 | 9 900 | 2 |
| Фарба «Снежка» ўльтрабелая, 3 л | 64 500 | 4 | **58 900** | 1 | 59 950 | 2 | 75 000 | 5 | 63 900 | 3 |
| Фарба Alpina Renova белая, 5 л | 128 580 | 3 | 128 500 | 2 | — | 5 | **122 400** | 1 | 129 900 | 4 |
| **ВЫНІК** | | **24** | | **26** | | **27** | | **36** | | **37** |

* За самую нізкую цану крама атрымлівае першае месца і 1 бал. За самы дарагі тавар альбо за яго адсутнасць крама магла атрымаць 5 балаў. Адпаведна, чым менш балаў, тым выгадней купляць у краме.

## Сцісла

### Заробак у Мінску — $716

Паводле падлікаў Белстата, сярэдні заробак у сталіцы ў сакавіку перавысіў 6,2 мільёна рублёў. Гэта на траціну больш, чым зарабляюць за мажамі кальцавой.

### Цэны будуць трымаць да канца года

Міністр гандлю Валянцін Чаканаў запатрабаваў забяспечыць жорсткі кантроль за зменай цэнаў. Так ён адрэагаваў на заяву Лукашэнкі, што інфляцыя сёлета не павінна перавысіць прагнозныя 12%. «Лепш, калі яна будзе каля 10%», — перакананы Чаканаў. Па стане на сакавік інфляцыя ўжо дасягнула 5,4%.

### Замест Амана прыйдуць ААЭ

Дырэктар «Мінскграда» Леанід Добыш заявіў, што інвестар для забудовы тэрыторыі былой 2-й бальніцы Мінска знойдзены. Ад элітнага ўчастка ў раёне вуліц Багдановіча і Янкі Купалы адмовіліся аманцы, затое знайшліся ахвотныя мільянеры з ААЭ. У іх планах будаўніцтва гатэля. А вось жылых дамоў не будзе.

### Дзяржава пазычыла яшчэ $75 мільёнаў

Міністэрства фінансаў рэалізавала чарговы выпуск дзяржаўных аблігацый. Іх пакупніком стала беларуская юрыдычная асоба. Стаўка аблігацый склала 6,9% гадавых, а тэрмін звароту — 4 гады.

### Беларусь закрыла рынак для ўкраінскіх кандытараў?

З пачатку красавіка беларуская мытня не прапускае кандытарскую прадукцыю з Украіны, затрымліваючы яе на мяжы для дадатковых праверак, піша «КоммерсантЪ». У выніку толькі ў гэтым месяцы страты ўкраінскіх вытворцаў могуць перавысіць $5 мільёнаў. У адказ Украіна можа пачаць «праверкі» беларускай малочнай прадукцыі.

**ЯМ**

## Фотафакт




**Гомельская кампанія «Славія» прапанавала зніжку беларускамоўным кліентам. За першы тыдзень у кампанію, якая прадае корпусную мэблю, пазванілі 30 патэнцыйных кліентаў, тры дамовы ўжо заключаныя.**

# «...Саня, працуй! Працуй лепш!»


Накладаць грым спартоўцу часта дапамагае каханая дзяўчына.

Рэпартаж з Чэмпіянату Беларусі **па бодзібілдынгу**.

Чэмпіянат прайшоў у Магілёве 28 і 29 красавіка. Сёлета мерапрыемства сабрала рэкордную колькасць удзельнікаў — 155.

Многія звязваюць з'яўленне «качкоў» на сцэне з 90-мі гадамі. Аднак самы першы ў Беларусі чэмпіянат, тады яшчэ БССР, па культурызму прайшоў у Магілёве аж у 1982. Тады спаборніцтвы называлі інакш — «атлетычная гімнастыка».

Большасць людзей грунтуе сваё меркаванне пра бодзібілдынг на стэрэатыпах. Напрыклад, што бодзібілдары «напампоўваюць» мышцы атрутнай хіміяй. «Ведаеце, вадой таксама можна атруціцца», — парыруе Мікалай Куцапалаў, галоўны арганізатар спаборніцтваў, адзіны беларускі суддзя міжнароднага класа.

Бодзібілдары, кажа ён, — гэта сур'ёзныя хлопцы, якія дабіваюцца выніку за кошт неверагоднай самааддачы і працаздольнасці. Напрыклад, сёлетні абсалютны чэмпіён Беларусі, Сяргей Косцель з Наваполацка, два месяцы перад чэмпіянатам займаўся «сушкай» — спальваў тлушч, каб дасягнуць бездакорнага мышачнага рэльефу. «Сушка» — гэта строгая нізкавугляводная дыета, сапраўднае выпрабаванне для цела і духу. І праходзіць яго даводзіцца не толькі мужчынам.

Падчас фатаграфавання Таццяна, віцэ-чэмпіёнка па бодзіфітнесу (так называецца жаночы бодзібілдынг) са стомленай усмешкай рэагуе на слова «чыз»: «Ура, цяпер можна будзе есці: і «чыз», і зефір!»

Жаночы бодзібілдынг — спрэчная тэма. Наколькі прывабная «накачаная» кабета? «Прыгожае і прапарцыйна развітае цела выглядае эстэтычна і па-жаноцку», — лічыць чэмпіёнка Беларусі Ганна Малярова. Але, па яе словах, жанчыне, якая вырашыла займацца сур'ёзна, важна разумець розніцу паміж «прыгажосцю» і «залішняй мышачнай масай».

У чым мужчыны-бодзібілдары дакладна пераўзышлі жанчын, дык гэта ў выкарыстанні грыму. Гаворка пра спецыяльную танальную алейную афарбоўку для цела, якая наносіцца перад выступам, каб падкрэсліць рэльефнасць цягліц. Грыміравацца бодзібілдару дапамагае трэнер ці, як часта можна ўбачыць, каханая дзяўчына.

Самі спаборніцтвы — захапляльны і інтрыгуючы працэс. Удзельнікі змагаюцца ў індывідуальнай праграме, пасля ўсе разам выходзяць на сцэну перад суддзямі. За лёгкасцю пазіравання — месяцы падрыхтоўкі і моц духу.

Сапраўдная драма разгортваецца на сцэне, калі спартовец працягвае выступленне праз боль ад нечаканай курчы, калі ад каласальнай напругі «цячэ» грым, ці калі ўдзельнікі чакаюць судзейскага вердыкту... За гэтым нельга назіраць без суперажывання.

«...Саня, ты ж цэлы год займаўся прысяданнямі — працуй, працуй лепш!» — гучыць з залы. Падбадзёрванне — важны элемент спаборніцтваў. У сучасным бодзібілдынгу дазваляюцца і нават заахвочваюцца выкрыкі і авацыі. Шкада, што поўная зала магілёўскага Дома дзіцячай творчасці чамусьці амаль увесь час сядзела моўчкі.

Крыху ажывіліся гледачы толькі падчас фенаменальнага паказальнага выступу Аляксея Шабуні, сапраўднага беларускага волата, спартоўцы міжнароднага ўзроўню. Каб раскатурхаць аўдыторыю, Аляксею давялося спусціцца да гледачоў у залу.

Але ж для сапраўднага развіцця бодзібілдынгу трэба, каб было наадварот — каб звычайныя людзі прыходзілі ў залу. Трэнажорную.

**Ягор Жукоўскі, Магілёў—Мінск**

## Паміж Мінскам і Вільняй пускаюць рэйкавы аўтобус



На **140 месцаў**.

Ад 26 мая паміж сталіцамі Беларусі і Літвы пачне ездзіць дызельны цягнік, зроблены на польскім прадпрыемстве PESA Bydgoszcz. У ім усяго два вагоны на 140 чалавек, гэта змяшчальнасць рэйкавага аўтобуса. Цягнік хуткасны: да 140 км/г. Час у дарозе ў новым цягніку скароціцца ад трох да двух з паловай гадзін. Але агулам час, выдаткаваны на паездку, наўрад ці паменшае. Раней цягнікі доўга стаялі ў памежных Гудагаі і Кяне, цяпер мытню і памежны кантроль пасажыры будуць праходзіць у Мінску перад пасадкай і ў Вільні перад высадкай з навамоднага цягніка.

**ЯМ**



**Камертон Сяргея Ваганава**

## Плюс-мінус Беларусь

...Нас было двое ля барнай стойкі ў чаканні кавы — я і малады, каротка стрыжаны, усмешлівы хлопец у стракатай спартовай куртцы, які нецярпліва пагульваў бірулькай з ключом ад аўто. Нешта здарылася з кававаркай, праз яе пыханне і шыпенне пары даносілася з тэлевізара навіна аб стварэнні ў Беларусі расійскай авіябазы. «Вось пабачыце, яшчэ і ракеты вернуць!» — з нейкім азартам раптам усклікнуў хлопец. «Што ж тут радавацца? — не стрымаўся я. — Вы хочаце, каб краіна ізноў стала мішэнню?» — «А што, плакаць? Трэба будзе — паваюем!» — і хлопец напружана сціснуў бірульку...

З усяго, што было напісана і прамоўлена ў апошнія дні пра расійскую авіябазу — ад акупацыі да скрупулёзных падлікаў разнастайных выгод, — гэты нязначны эпізод чамусьці вяртаўся да мяне зноў і зноў. Зноў і зноў я пытаўся ў сябе: чаму ў краіне, якую стагоддзямі ўздоўж і ўпоперак прасавалі крывавыя нашэсці, так лёгка стала вымаўляцца слова «вайна»?! Не толькі ж таму, што галоўнакамандуючы шчыра верыць у гатоўнасць беларусаў «легчы пад танкі», для чаго яму так не хапае двух дзясяткаў расійскіх знішчальнікаў...

Тут нешта яшчэ.

Успомнілася вёсачка Бармуты, што прытулілася да старадаўняга шляху на Брэст, цётка Зося, яе сумныя вочы, пасма валасоў з-пад старой хусткі, зморшчаныя кулачкі, прыціснутыя да грудзей, і раптоўны ўскрык: «Дзетачкі вы мае даражэнькія, я б усіх вас ад вайны засланіла...»

У Бармуты я паехаў у сярэдзіне 1980-х, калі пачуў, што жывуць там адны ўдовы загінулых падчас вайны — хто на чужыне, хто на радзіме... «18 пулек у яго папала, 18 дзірачак, — лямантавала цётка Зося. — І галава ўся пабіта. Як везла на могілкі, усё тыя дзірачкі лічыла... І цяпер, як вочы заплюшчу, чую: ідзе мой Алёшанька, снедаць просіць. Паліцаі ж нават даснедаць яму не далі... А ён мне: не хвалюйся, Зося, вярнуся — даснедаю...»

Дваццаць гадоў таму, калі Станіслаў Шушкевіч адмаўляўся падпісваць дамову аб далучэнні да АДКБ і пагражаў рэферэндумам, яшчэ было ў каго пытацца аб нейтралітэце. Бо жыла памяць. Не тая памяць, што бразгае зброяй, а тая, што намагалася засланіць жывых чаканнем загінулых ад вайны. Каб даць ім даснедаць...

Рэферэндум не адбыўся, кампрамісны, так бы мовіць, запіс у Канстытуцыі пра імкненне да нейтралітэту ператварыўся ў пустую паперку, а здраджаная памяць згінула разам з удовамі вайны, саступіўшы месца празе падлікаў.

### Чаму звычка жыць чужым розумам аказалася мацнейшай за пачуццё доўгу перад будучымі пакаленнямі?

І ў каго цяпер пытацца пра нейтралітэт — сапраўдную, на ўсе часы, заслону ад вайны?

Чаму звычка жыць чужым розумам, чужымі ваяўнічымі інтарэсамі аказалася мацнейшай за памяць, сумленне, пачуццё нацыянальнай годнасці і доўгу перад будучымі пакаленнямі? Чаму страта незалежнасці хвалюе менш, чым салодкая залежнасць ад нібыта танных энерганосьбітаў, ад замоваў расійскага ВПК — чым пагроза таго, што замест Рэспублікі Беларусь зноўку з'явіцца, у лепшым выпадку, тэрыторыя, у найгоршым — плацдарм?!

Ці ж не тэрыторыяй і плацдармам была Беларусь звыш двух стагоддзяў расійска-савецкай імперскай гісторыі, перажыўшы ў яе сутаргавым заканчэнні ядзерную катастрофу?!

Дык то ж не вайна, запярэчыце вы, проста вецер так няўдала для Беларусі дзьмуў. Але чарнобыльскі вецер — гэта вецер вайны. Бо савецкі атам мірным ніколі не быў. Што ў Чарнобылі, што на ракетных базах, колькасць якіх на душу беларускага насельніцтва была найбольшай у СССР. Хто-небудзь лічыў, колькі заўчасна вымерла тых душ, што жылі наўкол прыхаваных у беларускіх лясах агнядышных шматгаловых страшыдлаў?!

Не, падлікі рабіліся з іншай мэтай.

Памятаю, гадоў дваццаць таму «вядучыя расійскія палітыкі і эканамісты» падлічвалі «плюсы і мінусы» ад уваходу Беларусі ў расійскую рублёвую зону. Сярод плюсаў была «магчымасць захаваць у ранейшым выглядзе вайсковыя аб'екты, узаемаадносіны ў вайсковай сферы», а заадно «выключыць магчымасць далучэння Беларусі да НАТА».

Праўда, быў для Расіі і мінус: «павелічэнне фінансавага ўдзелу ў ліквідацыі наступстваў чарнобыльскай аварыі».

Расія пазбегла гэтага «мінуса». Аж да таго, што 26 красавіка ніводзін дзяржаўны расійскі тэлеканал не згадаў пра трагічную гадавіну!

Але што ні год, здабывае плюсы: да двух існуючых базаў — плюс дваццаць знішчальнікаў, плюс авіяполк, плюс авіябаза...

...Быў у мяне знаёмы расеец Фёдар. Пасля войска ажаніўся, застаўся ў Беларусі і працаваў на ракетнай базе, схаванай у дрысенскіх лясах. Быў задаволены працай, бо яна давала неблагі прыбытак і дазваляла трымаць ці не самую заможную ў вёсцы гаспадарку.

Фёдар першым памёр ад пухліны ў галаве. За ім — жонка. А пасля пухліна прайшлася па ўсёй вёсцы. Уратаваліся толькі тыя, што з'ехалі.

Хто куды...

# Беларускі біскуп Сібіры

**Кірыла Клімовіч** ужо дзесяць гадоў як біскуп каталіцкай дыяцэзіі святога Язэпа. Мы патэлефанавалі ў Іркуцк, каб задаць колькі пытанняў айцу Кірылу.




**Кірыла Клімовіч**
Каталіцкі біскуп. Нарадзіўся ў 1952 у вёсцы Амангельды, каля Алма-Аты (Казахстан). Ад 1956 да 1965 жыў у Беларусі. Ад 1965 у Польшчы. Скончыў духоўную семінарыю ў Ольштыне. У 1990—1999 — пробашч касцёла ў Глыбокім. Ад 1999 — дапаможны біскуп пры Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі. У 2003 Папа Ян Павел ІІ прызначыў Клімовіча ардынарыем расійскай епархіі святога Язэпа. Віцэ-старшыня Канферэнцыі каталіцкіх біскупаў Расіі.

### 1200 кіламетраў еду на машыне

**«Наша Ніва»: Вы ўжо дзесяць гадоў у Сібіры. Цяжка было прызвычаіцца да мясцовага каларыту?**

**Кірыла Клімовіч:** Вядома ж! У Беларусі я быў дапаможным біскупам пры Казіміры Свёнтку, валадарства яму нябеснае. А тут стаў ардынарыем. Гэта самая вялікая епархія — больш за 10 мільёнаў квадратных кіламетраў. Шмат нацыянальнасцяў, не толькі расейцы, палякі ці беларусы. Але і якуты, бураты, эвенкі, хакасцы... І за ўсю гэтую тэрыторыю адказны я. Праблем хапае, святароў не надта шмат. У нас тут толькі тры святары-расейцы. Астатнія са Славакіі, Амерыкі, Індыі, Інданэзіі... З Беларусі, на жаль, няма нікога.

**«НН»: Як пераадольваеце такія адлегласці?**

**КК:** 4—5 тысяч кіламетраў — гэта звычайная адлегласць. Калі менш за 1200 кіламетраў, то яшчэ еду на машыне. Далей — ужо на самалётах. Нядаўна быў у Петрапаўлаўску-Камчацкім — гэта самая далёкая кропка. Яшчэ ёсць Хабараўск, Сахалін. Шмат часу даводзіцца быць у ад'ездах. Па тэлефоне і інтэрнэце ўсіх праблем не вырашыш. На 15 чэрвеня, дзесяцігоддзе майго ўступлення на пасаду, плануюправесці вялікую сустрэчу для святароў, манахаў, сясцёр епархіі.

**«НН»: Ці ёсць нейкая спецыфіка службы ў аддаленых раёнах?**

**КК:** У кожнай парафіі ёсць. Шмат каталікоў сярод якутаў і буратаў.

**«НН»: Там моцныя мясцовыя традыцыі, вераванні?**

**КК:** Канечне! Але нават з шаманамі мы маем добрыя адносіны. Мы ж усе людзі. Жывём у адной краіне. Без дыялогу ніяк.

### З патрыярхам Кірылам стала прасцей

**«НН»: У Іркуцку, мабыць, прасцей.**

**КК:** Яшчэ ў Краснаярску, Уладзівастоку. Тут большыя парафіі. Але ёсць і такія святары, што ездзяць у вёскі, дзе 13—15 прыхаджанаў. Гэта ж не Беларусь, што ўзяў паехаў у Гомель, на Нарач, куды хочаш. У Іркуцку і Краснаярску па два касцёлы. Старыя яшчэ будаваліся тымі людзьмі, якіх сюды адпраўлялі ў высылку.

**«НН»: Якраз хацеў сказаць. Раней каталіцкіх святароў адпраўлялі ў Сібір толькі на катаргу, пасля паўстанняў XIX ст., падчас сталінскіх рэпрэсій…**

**КК:** Мне ў мінскай дыяцэзіі людзі так і казалі: «Куды цябе заслалі». А я казаў, што паслалі, а не заслалі. Цяпер ужо не тое, што было раней. Зрэшты, куды б ні паехаў — у Нарыльск, яшчэ куды, — бачу там беларусаў. У Іркуцку таксама суполка беларусаў ёсць, але яны не надта ходзяць да касцёла. Сілай жа нікога не прывядзеш. Яны там розныя: нехта ў мэрыі працуе, нехта праваслаўны. Калядкі ладзяць беларускія, але да касцельнага жыцця гэта не мае дачынення.

**«НН»: З праваслаўнымі вернікамі ў Вас няма канфліктаў? Раней у Расіі яны былі даволі частымі.**

**КК:** Дзякуй Богу, што ёсць дыялог. Асабліва калі патрыярхам стаў Кірыл, стала лягчэй. На мясцовым узроўні вельмі добрыя адносіны, дай Бог, каб так працягвалася далей.

**«НН»: У Благавешчанску праваслаўныя не хочуць аддаваць каталікам стары будынак касцёла. Неяк удаецца вырашыць гэтае пытанне?**

**КК:** Думаю, што праз год ужо вернуць. Там цяпер новы епіскап — Лукіян. Самы малады ў Расіі — 48 гадоў. Вельмі разумны чалавек. У Іркуцку таксама не можам вярнуць стары касцёл, арганную залу. Там цяпер філармонія.

### Для якутаў пакуль па-расейску

**«НН»: А якія праблемы Вас хвалююць найбольш?**

**КК:** Праблемы аднолькавыя як у Беларусі, так і ва ўсім былым СССР. Праблема ў моладзі з успрыманнем сямейных каштоўнасцяў, з п'янствам. У нас яшчэ не так. А вось у закінутых мясцінах гэта вялікая праблема. Ці ёсць у карэнных народаў Расіі праблемы з алкаголем? Ва Улан-Удэ ў Бураціі, у якуцкім Алдане калі ідзеш да людзей з добрым сэрцам, то яны адказваюць тым жа. Людзі бачаць гэта і пераходзяць да нас у касцёл.

**«НН»: А служыце для якутаў і буратаў па-расейску?**

**КК:** Так, па-расейску. Быў у нас адзін клерык якут, але, мабыць, вырашыў, што служэнне — не ягоны шлях. Хутка прыедзе адзін славак, дык ён яшчэ ў сябе дома пачаў вывучаць якуцкую мову. Пэўна, будзе практыкаваць.

### Бацькі былі «кулакамі»

**«НН»: У Вас цікавы лёс. Нарадзіліся ў Казахстане, жылі ў Беларусі і Польшчы. Цяпер вось у Сібіры. А кім сябе лічыце?**

**КК:** Чалавекам. Як казаў апостал Павел, для Хрыста няма ні грэка, ні юдэя. Заўсёды кажу, што я Божы цыган. Я там, куды пасылае мяне Бог. Але грамадзянства ў мяне беларускае.

**«НН»: Як у Казахстане апынулася ваша сям'я?**

**КК:** Прызналі кулакамі. Сям'я з Браслаўскага раёна. У нас была зямля, лес... Мама была цяжарная

## Нават з шаманамі мы маем добрыя адносіны

мной, калі яе высылалі ў Казахстан. Там я і правёў некалькі першых гадоў жыцця.

**«НН»: А як удалося з'ехаць у 1960-я ў Польшчу?**

**КК:** Гэта быў цуд. Канечне, не такі цуд, як адраджэнне Касцёла ў Беларусі, але ўсё адно. Бацька з'ехаў у Польшчу яшчэ ў канцы 1950-х. Потым прыехаў да нас у годзе 1962 ці 1963. Яны з маці паехалі ў Маскву да пасла. Доўга збіралі дакументы, яшчэ некалькі гадоў прабылі ў Беларусі. У Польшчы я стаў святаром. Там жывуць мае браты. Бацькоў, на жаль, ужо няма.

**«НН»: Чаму тады вярнуліся ў Беларусь у 1990-м?**

**КК:** Адчуў патрэбу. Я ж тут з малых гадоў выхоўваўся, жыў. Заспеў цяжкія гады для вернікаў, калі не давалі маліцца, нават білі школьнікаў за тое, што хадзілі да касцёла. Мне падалося, што той час [1990 год — «НН»] быў зручны, каб пачаць перадаваць людзям дабро і шчырасць. Дый святароў было мала.

**«НН»: Мітрапаліта Кандрусевіча пасля працы ў Маскве перавялі назад у Беларусь. Можа, і вас так?**

**КК:** Ой, не ведаю *(смяецца)*. Не ад мяне гэта залежыць.

### «Новы Папа — гэта супер»

**«НН»: Як Вам новы Папа Францішак? Здаецца, ён спрабуе крыху рэфармаваць Касцёл.**

**КК:** У Касцёле мы заўсёды паслухмяныя. Дай Бог, каб Папа рабіў тое, што робіць. Адкрыта і проста ішоў да людзей. Для мяне гэта супер. Аднойчы сустракаўся з Папам Бенедыктам XVI, дык ад спатканяя з ім як добрая маланка прабегла. Цяпер вось Францішак. Па тым, што я чытаю, мне вельмі падабаецца ягоны падыход. Ён мне блізкі. Так што няхай ідзе да людзей.

**«НН»: Вам амаль 61 год, а застаяцеся вельмі бадзёрым чалавекам.**

**КК:** Бог дае ўсё. Калі з Богам жывеш у душы, то лягчэй. Як можна па-іншаму? Мяне мітрапаліт Кандрусевіч кліча на Будслаўскі фэст сёлета, я б з радасцю паехаў, але якраз у гэтыя дні адкрываю драўляны касцёл у вёсцы Вяршына (140 км ад Іркуцка). Потым ехаць у Абакан. А так я падтрымліваю сувязь з тымі людзьмі, з кім працаваў у Мінску, званю ім.

**«НН»: Бачу, што беларускую мову таксама не забываецеся.**

**КК:** Калі прыязджаю ў Беларусь, то імшу служу толькі пабеларуску. Мне гэта вельмі прыемна. Я ж на ёй вучыўся з малых гадоў. Хацелася б, канечне, ведаць лепш. Як прыеду ў Беларусь, скажу па-вясковаму, дык так папрэ пабеларуску, што ўжо і не спыніць!

Гутарыў Зміцер Панкавец



Епархія святога Язэпа (пазначана зялёным) найбольшая ў свеце.

# «Калі нас выселяць, адмовімся ад беларускага грамадзянства»

У Гродне **пяцьдзясят чалавек высяляюць** з кватэраў на койкамесцы.



«Мы не выедзем, хіба што нас вынесуць»

За дом па Пестрака гродзенцы б'юцца ўжо чацвёрты год.

Ала Заяц ужо атрымала пастанову суда аб высяленні, але здавацца не збіраецца.

Больш за дваццаць гродзенскіх сем'яў збіраюцца выселіць з кватэр. Іх дом, нечакана для саміх жыхароў, аказаўся інтэрнатам, яго збіраюцца зачыніць на рэканструкцыю, а потым засяліць іншымі людзьмі.

Сённяшніх насельнікаў па чарзе выклікаюць у суд, каб агучыць аднолькавыя пастановы: выселіць з займанага памяшкання з прадастаўленнем іншай жылплошчы ў інтэрнаце. «Мы не выедзем, хіба што нас вынесуць», — абяцаюць жыхары.

### Інтэрнат па паперах

Людзей засялялі ў дом у канцы 1980-х як супрацоўнікаў «Гроднажылбуда». «Мы прыехалі з тых інтэрнатаў, куды нас цяпер вяртаюць, нам гэтае жыллё давалі як паляпшэнне ўмоваў», — кажуць яны.

Пра тое, што шматпавярховік па паперах з'яўляецца інтэрнатам, здагадацца складана. Выглядае як звычайны жылы дом. Ніякіх вахцёрак на ўваходзе, дамафоны на дзвярах пад'ездаў, адна- і двухпакаёвыя кватэры з кухнямі і санвузламі — прыстойнага выгляду маласямейка. У пашпартах жыхароў стаяць звычайныя штампы аб рэгістрацыі. «Мы не падпісвалі ніякіх папер, што засяляемся ў часовае жыллё, нас ніхто не папярэджваў», — разводзяць рукамі суседзі.

Бяды яны не ведалі да 2010 года, калі іх упершыню папрасілі з жытла «на выхад». Тады ж старшынёй Гродзенскага аблвыканкама прызначылі Сямёна Шапіру, і ініцыятыўная група прабілася да яго на прыём. «Ён паслухаў, сказаў падначаленым пра нас: хай свае жыллё выкупляюць», — узгадвае ўдзельніца сустрэчы Ала Заяц. Тады ж жыхары атрымалі афіцыйную паперу ад аблвыканкама, у якой значылася: «Высяленне грамадзянаў адбываецца не будзе, пытанне змены функцыянальнага прызначэння будынка не разглядаецца». Праз год Шапіра загаварыў па-іншаму: маўляў, жыльцы з Пестрака ўвялі яго ў зман.

**Афіцыйна**

Будынак інтэрната па вуліцы Пестрака, 34а запланаваны да рэканструкцыі з мэтай стварэння жыллёвага фонду для перасялення грамадзян са знесеных і пераабсталяваных жылых памяшканняў. Пытанне аб камерцыйным выкарыстанні будынка не разглядаецца.

**(З адказу гарвыканкама)**

Выселіць з жылога памяшкання інтэрната па вул. Пестрака, 34а ў Гродне з прадастаўленнем іншай жылой плошчы ў інтэрнаце па вул. Сакульскай, 20. Спагнаць 300 000 рублёў у зварот дзяржпошліны і 61 500 рублёў судовых выдаткаў.

**(З судовай пастановы)**

### Рэканструкцыя для іншых мэтаў

Цяперашняя пазіцыя дзяржавы выказаная ў лісце, падпісаным намеснікам старшыні аблвыканкама Ігарам Жуком. Дом, вакол якога разгарэўся сыр-бор, вырашана рэканструяваць. Таму жыльцам трэба адсяліцца ў інтэрнаты. Аднак пасля рэканструкцыі назад іх не паклічуць: іх кватэры нібыта дадуць перасяленцам з дамоў, якія будуць зносіць для гарадскіх патрэбаў. Людзі ў такую версію не вераць, яны перакананыя, што кватэры пасля распрададуць па камерцыйных цэнах. Падобная схема, кажуць яны, у Гродне ўжо прымянялася.

### Хто паспеў, той з'ехаў

У доме 160 кватэр, але большасць з іх пустыя. У пачатку «папяровай вайны» жыльцам прапанавалі ўступіць у кааператыў і пабудаваць жытло з дапамогай ільготных крэдытаў. Многія ўзяліся, іншыя плюнулі і павыязджалі з абжытых маласямеек хто куды. Цяпер іх кватэры стаяць пустыя на радасць птушкам, якія віюць гнёзды на балконах.

Аднак у некаторых грошай на будаўніцтва не было. Людміла Станкевіч — інвалід, «пацягнуць» крэдыт яна не зможа пры ўсім жаданні. Такіх, як яна, высяляюць у інтэрнат на койкамесцы (па 6 м² на чалавека). Сем'ям з чатырох чалавек даюць блок. Людзей такі падыход абурае. На Пестрака яны жывуць у адна- і двухпакаёвых маласямейках і просяць не пагаршаць іх жыллёвае становішча. Напрыклад, кватэра, у якой цяпер жыве сям'я Алы Заяц, зношаная на 18%, а пакой, куды іх высяляе суд, на 30%. «Дык якi з дамоў трэба рэканструяваць?» — пытаецца яна.

Дый у інтэрнат не заселішся настала. З жыхарамі заключаецца дамова на год, а пасля ніхто не перашкодзіць пазбавіцца ад «праблемных» насельнікаў, якія занадта актыўна змагаліся за свае правы...

Некаторыя не вытрымліваюць наўпрост у судзе. «У адной жанчыны пачалася істэрыка, дык ёй суддзя кажа: маўляў, едзьце на Шчорса, у псіхбальніцу, там атрымаеце бясплатнае жыллё і харчаванне...» — расказвае Ала Заяц.

### Непрымальная альтэрнатыва

Людзі прапануюць некалькі кампрамісных варыянтаў вырашэння канфлікту. Напрыклад, засяліць іх усіх у адзін з пад'ездаў дома, а ў другім праводзіць рэканструкцыю. Гатовыя яны і на прыватызацыю па сённяшніх тарыфах. У такім выпадку за кватэры давядзецца заплаціць у бюджэт па $10—15 тысяч. «Аднак дом разам з намі аблвыканкаму не патрэбны», — з сумам канстатуюць жыхары.

Чаму ў судовую гісторыю трапіў менавіта іх дом, людзі растлумачыць не могуць. Такіх інтэрнатаў па Гродне нямала.

Адвакаты падбадзёрваюць сваіх падабаронных, аднак шанцаў застацца ў маласямейках мала. Дзяржаўная машына запушчаная, і яе цяжка спыніць. Людзі абышлі і Дзяржкантроль, і Адміністрацыю прэзідэнта, дапамагчы ім ніхто не здолеў.

У рашэнні суда не сказана, у які тэрмін жыхары абавязаныя пакінуць кватэры. Значыцца, трохі часу на змаганне яшчэ ёсць. «У нармальных краінах для сабак будуюць лепшыя пітомнікі, чым інтэрнаты, у якія нас высяляюць. Мы даведзеныя да адчаю, часам прыходзяць думкі пра самасуд... Калі нас будуць высяляць — адмовімся ад беларускага грамадзянства. Будзем прасіцца бежанцамі ў Польшчу і Расію», — абяцаюць яны.

**Ягор Марціновіч,
Гродна — Мінск**

## Аднавілася будаўніцтва «Бульбаш-хола»?

**Каля Курапат** — свежыя сляды дзейнасці.

За апошні час месца будаўніцтва забаўляльнага цэнтра «Бульбаш-хол» каля Курапатаў моцна змянілася. Там раптоўна з'явіўся газон, бачна, што не так даўно клалі тратуарную плітку. Побач заўважныя свежыя сляды ад буйнагабарытнай тэхнікі, а непадалёку раскіданае будаўнічае смецце. Аднак рабочых няма. На тэрыторыі прагульваецца толькі адзін ахоўнік у спартыўным строі. Ад пытання, ці будуецца комплекс зараз, мужчына ўхіляецца: «Можа, грошай няма, вы ж ведаеце, якая зараз сітуацыя...»

На тэрыторыі комплексу стаяць амаль гатовыя будынкі, вонкавыя працы ўжо скончаныя, але ўнутры пуста. У альтанках на дварэ ляжаць мяшкі з цэментам, пабудаваная дзіцячая пляцоўка, часткова ўзведзены таніраваны плот.

У 2012 звесткі пра тое, што ля Курапатаў будуюць забаўляльны комплекс, абурылі грамадскасць.

Згодна з загадам генеральнай пракуратуры, будаўніцтва мусіла спыніцца да распрацоўкі новага праекта, які падрыхтуе Мінаблвыканкам. Начальнік упраўлення аховы гісторыка-культурнай спадчыны і рэстаўрацыі Міністэрства культуры Ігар Чарняўскі сцвярджае, што ніякіх дакументаў да іх не трапляла. А праект перад зацвярджэннем яшчэ мае прайсці грамадскае абмеркаванне. Каардынатарка ініцыятывы «За ўратаванне мемарыяла Курапаты» Ганна Шапуцька з паплечнікамі збіраецца звяртацца ў пракуратуру.

**Настасся Храловіч**



**Курапаты**

урочышча пад Мінскам, дзе ў 1937—1941 карнікі НКУС расстралялі, паводле розных падлікаў, ад 40 да 200 тысяч чалавек.

# Топ-7 найдаражэйшых карцін

Якія творы сёння дарагія ў мінскіх галерэях? **Чаму яны дарагія?**

Жывапіс сёння цікавіць не толькі калекцыянераў, але і ў цэлым людзей нябедных. Адныя набываюць штo папрасцей, падарыць шэфу, іншых вабяць дарагія рамы, якія ўдала ўпішуцца ў інтэр'ер. Карэспандэнтка «НН» абышла сталічныя галерэі і пацікавілася цэнамі на карціны. Найдаражэйшыя творы размешчаныя ў парадку павелічэння цаны.


Пейзаж Валяр'яны Жоўтак. Без назвы.

## 7. Наталля Разуменка. «Лістапад». 11 535 000 рублёў

*Галерэя «Славутыя майстры»*



«Карціна выканана ў тэхніцы ляўкасу з прыёмамі калажнасці, — распавядае мастачка. — Такім спосабам пішуць часта іконы. Асабіста мне ён дапамог больш цікава і аб'ёмна раскрыць тэму мінулага Мінска і ўсёй Беларусі. Гэты твор і яшчэ некаторыя складаюць выставу «Старыя паштоўкі» — гэта своеасаблівыя замалёўкі з мінулых жыццяў, розныя пакаленні знойдуць там знаёмыя для сябе вобразы».

## 6. Аляксей Хацкевіч. «Рыбін эрас». 13 280 000 рублёў

*Галерэя «Падземка»*



«Апошнія два гады карціны з рыбамі чамусьці вельмі папулярныя, — усміхаецца дырэктар галерэі Алена Рысакова. — Не ведаю, чаму, бо цяпер і не год рыбы нават... Прыходзяць і пытаюцца: «Якія ў вас ёсць карціны з рыбамі?» Звычайна творы вісяць у нас тры месяцы. Калі не прадаюцца, то аўтар іх забірае і нясе ў іншую галерэю. «Рыбін эрас» у нас ужо два месяцы, людзі падыходзяць, цікавяцца, але менавіта гэтую пакуль не набываюць».

Карціны маладых аўтараў тут каштуюць ад 500 тысяч. Некаторыя маглі б каштаваць у разы болей, але прозвішчы мастакоў пакуль нягучныя, таму і прадаюцца карціны танней, кажа спадарыня Рысакова. Купляюць карціны беларускіх мастакоў і замежнікі. «Не так даўно прыязджалі галандцы, для іх 500 тысяч — гэта проста смешна, калі перавесці ў еўра, яны шмат чаго ў нас набылі, усё згрэблі ў машыну і павезлі. Вельмі частыя пакупнікі ў нас — расейцы, асабліва падчас майскіх святаў. Вось рыхтуемся да іх напліву...»

## 5. Пейзаж Эдуарда Рымаровіча. «Адліга». 14 720 000 рублёў

*Галерэя «Артблік»*



Карціна напісаная алеем, у галерэі знаходзіцца другі месяц. Прадавачка падказвае, што пакупнікі пейзажам цікавяцца, але пакуль не набываюць — часам чалавек мусіць «саспець» для такой досыць дарагой рэчы.

«Гэта ў цэнтральных галерэях больш іншаземцаў ходзіць, а нашы пакупнікі — у асноўным беларусы, — кажа дырэктарка Ганна Каралёва. — Купляюць ці на падарункі, ці сабе ў кватэру творы коштам да 5 мільёнаў. Калекцыянеры таксама прыходзяць, але радзей. Апошнім часам у іх з'явілася тэндэнцыя — набываць працы моладзі, напэўна, з надзеяй пасля прадаць даражэй, калі мастак праславіцца».

## 4. Пейзаж Ігара Бархаткова. «Конік на раллі» («Лошадка на пашне»). 25 950 000 рублёў

*Галерэя «ЛаСандр-арт»*



«Калі мы выстаўляем кошт карціны, абавязкова ўлічваецца і статус мастака, і тэмы, на якія ён малюе, і якасць твора, — распавядае дырэктар Ларыса Бортнік. —Таму цэны выразна размяжоўваюць тыя карціны, якімі мастак увойдзе ў гісторыю мастацтва, і тыя, якімі ён зарабляе на жыццё. Напрыклад, калі папрасіць музеі выставіць цэны на тыя творы, якія экспануюцца ў іх цяпер, — мы б, напэўна, з глузду з'ехалі! Таму што гэта ўжо — набытак цэлай краіны. А тое, што можна пабачыць у галерэях-салонах, больш арыентавана на фінансавыя магчымасці пакупніка.

У аднаго і таго ж мастака ёсць танныя і дарагія карціны. Прычым апошнія ён зберагае для якой-небудзь юбілейнай персанальнай выставы, бо разумее, што ў гэтых карцінах ён дасягнуў пэўнага майстэрства, і такія карціны ён імкнецца не прадаваць.

Але калі выйсця няма, прадаць магчыма ўсё. Бо ў прынцыпе, прадаецца ўсё, што купляецца, і на кожны тавар ёсць свая цана. Нават калі мастак грудзьмі кладзецца — «Не, я гэта нізавошта не прадам!» — у пэўны момант усё роўна з'явіцца чалавек, які прапануе суму, ад якой мастак не зможа адмовіцца.

Калі казаць пра пакупнікоў, дык тых, хто можа набыць твор за 10—20 мільёнаў, зусім няшмат. Гэта не абавязкова калекцыянеры, але пасля такой сур'ёзнай пакупкі могуць і стаць імі, калі ў іх прачнецца цікавасць да мастацтва. Звычайна бяруць мільёнаў да васьмі. Людзі зрабілі рамонт, набылі дарагую мэблю, прыходзяць і просяць падабраць ім твор — бо сцяна вольная, а дызайнер сказаў, што тут павінна быць карціна ў вельмі дарагой раме. З такім падыходам часта прыходзяць не да мастацтва, а да спажывання, але калі ў гэтага спажыўца інтэлект вышэйшы за сярэдні, ён можа стаць калекцыянерам і ацаніць тое, што ён набыў. Яны кажуць пра раму, бо ім трэба дапаўненне да інтэр'ера.

Можна, вядома, у такім выпадку сказаць чалавеку: «Мы ўвогуле рамамі не гандлюем, у нас тут творы мастацтва ». Але магчыма і зайсці з іншага боку, сказаць: «Раму вы пасля падберае, спачатку паглядзіце, які твор падабаецца вам больш». Калі ставіцца да людзей зычліва, іх магчыма навярнуць у сваю веру, паставіць іх тварам да мастацтва.

Зараз, на жаль, няшмат увагі надаецца эстэтычнаму выхаванню ў школе, культура не прывіваецца. Гісторыю мастацтваў звычайна выкладае той, хто і сам яе як след не ведае. Веды ў гэтым накірунку даюць настолькі малыя і настолькі перакошаныя, што нельга сказаць, быццам бы нашыя людзі выхоўваюцца з густам да візуальнага мастацтва. Адсюль мы не назіраем сёння культуры набыцця карцін.

Да таго ж, у апошнія гады пакупніцкая магчымасць знізілася, мы гэта адчуваем. Крызіс прывёў да таго, што цэны на спажывецкія тавары падняліся мінімум утрая. А калі людзі прыходзяць у галерэю, яны кажуць: «Крызіс, трэба паніжаць цэны на карціны!» А вы паспрабуйце так паскардзіцца, калі каўбасу набываеце — падыдзіце, скажыце гэта прадавачцы! Чаму мастак, які набывае сёння ў тры разы даражэй фарбы і іншыя матэрыялы, павінен зніжаць цану? Як яму тады жыць? Ён прыходзіць у краму так, як і астатнія, набывае тую ж каўбасу, якая падаражэла ўтрая.

Але ж мастацтва тым і розніца ад спажывецкіх тавараў — няма неабходнасці набываць карціны штодня. Таму, калі сапраўды ёсць жаданне, магчыма на сапраўды варты твор выдаткаваць нямала грошай».

## 3. Леанід Шчамялёў. «Сакавіцкі снег». 27 000 000 рублёў

*Галерэя «Канцэпцыя»*



«У мастака за ўсё жыццё бывае некалькі карцін, якія ён трымае пры сабе, — распавядае дырэктар Лідзія Страх. — Гэта пэўнага кшталту багаж, як самая лепшая выстава, і ён яе не прадае. Але галерэйная справа цяпер цяжкая, датацый ні ад каго няма, таксама няма ў нас мецэнатаў. Карціна Шчамялёва — адна з самых вялікіх па памеры — вісіць у нас ужо даволі даўно. Бо ў асноўным набываюць карціны за 4—5 мільёнаў. А тое, што перавышае 12—15 мільёнаў, бяруць рэдка».

## 2. Аляксей Лунёў. Дыптых Total Zero. 33 000 000 рублёў

*«Галерэя Ў»*




Работа была створаная для праекта «Мультыплікацыі» ў 2010. Цана аўтара часта расце, калі ён бярэ ўдзел у выставах ці праектах. Гэтая праца ўдзельнічала ў «Радыусе нуля» летась і ў традыцыйнай выставе прыватных калекцый у Маскоўскім цэнтры сучаснага мастацтва. Таксама яна апублікаваная ў двух каталогах. Некаторыя эксперты абазначаюць гэтую працу і яшчэ адну — «Нічога няма» аўтарства таго ж Лунёва — знакавымі творамі канца «нулявых».

Дыптых знаходзіцца ў Маскве, але ён па-ранейшаму на балансе галерэі, гэта значыць, у любы момант яго магчыма набыць. Калі замовяць, транспарціроўка з Расіі адбудзецца ў гэты ж дзень.

«Што тычыцца цаны, дык для дыптыха гэта няшмат, — кажа дырэктарка галерэі Валянціна Кісялёва. — Можа, для беларускага пакупніка і не зусім даступна, але на Захадзе ці ў той жа Расіі 2,5—3 тысячы долараў за дыптых ці графіку таго ж памеру — нават мала.

Некаторыя кажуць пра падобныя працы: «Ну што тут такога, чаму яна павінна каштаваць столькі?» І — не паверыце! — прыводзяць у прыклад т.зв. галерэю ў ГУМе, дзе вісяць рэпрадукцыі. Гэта, вядома, пытанне адукацыі і выхавання. Некаторыя не разумеюць, што твор сучаснага мастака — гэта ідэя, якая транслюецца ад аўтара гледачу з дапамогай пэўных выяўленчых сродкаў.

На дыптых Лунёва мы пакуль не падымаем цэны — вельмі хацелася б, каб гэты твор застаўся ў Беларусі».

## 1. Пейзаж Валяр'яны Жоўтак. Без назвы. 49 000 000 рублёў

*Галерэя «Беларт»*

«Традыцыйна высокія цэны на работы мастакоў, якіх ужо няма сярод жывых, — тлумачыць намесніца дырэктара галерэі «Беларт» Ірына Небышынец. — У нашай галерэі гэта працы Паўла Масленікава, Валяр'яны Жоўтак, Мікалая Валунца. Пасля таго, як мастак сышоў, працы робяцца ўнікальнымі. Валяр'яна Жоўтак — гэта нашая беларуская мастачка, класік пейзажнага жывапісу, некаторыя яе працы экспануюцца і ў Нацыянальным мастацкім музеі».

**Настасся Храловіч**

# Каму колецца Альгердава дзіда?

Прарасійскія сілы спрабуюць сарваць **адкрыццё помніка** вялікаму князю літоўскаму ў Віцебску.



Першы (чарнавы) варыянт праекта. Канчатковы трымаюць у сакрэце.

VITEBSK.CC

Урачыстае адкрыццё помніка вялікаму князю Альгерду на Уваскрасенскай плошчы ў Віцебску запланаванае на чэрвень. Яно стане вынікам некалькіх гадоў працы — у 2011 адбыўся конкурс на найлепшае ўвасабленне вялікага князя, год таму зацверджаны праект скульптара Валерыя Магучага, у СМІ з'явіліся першыя выявы велічнага помніка, упісанага ў гарадскія пейзажы.

Вялікі князь Альгерд, уладар гіганцкай дзяржавы, які ставіў дзіду ля маскоўскай брамы, вызваліў Кіеў ад татараў, стрымліваў тэўтонаў, у Віцебску вучыўся кіраваць. Ён стаў віцебскім князем яшчэ пры жыцці бацькі Гедыміна, бо быў жанаты з віцебскай князёўнай. Праз гэты дынастычны шлюб багаты горад мірна ўвайшоў у ВКЛ, быў абнесены замкавымі мурамі.

Ініцыятыву паставіць Альгерду ў Віцебску помнік ухваліў асабіста Лукашэнка. Чаму не? Моцныя кіраўнікі з летапісных часоў не супярэчаць сённяшнім ідэалагічным схемам.

Затое, як аказалася, супярэчаць схемам імперскім. 25 красавіка ў Віцебску «адбылася сустрэча прадстаўнікоў арганізацый расійскіх суайчыннікаў». Удзельнікі заклікалі не дапусціць установкі помніка Альгерду, які «вядомы ганеннямі і забойствамі праваслаўных сучаснікаў, здзяйсненнем шматлікіх вайсковых паходаў на Маскву».

### Хто яны — «расійскія суайчыннікі»?

Карэспандэнту «НН» удалося звязацца з адным з удзельнікаў сустрэчы. Андрэй Герашчанка, былы кіраўнік аддзела па справах моладзі адміністрацыі Кастрычніцкага раёна Віцебска, публічна адмаўляў існаванне беларускай нацыі і беларускай мовы. У 2011 яго звольнілі ў сувязі са сканчэннем кантракта. Цяпер ён прадстаўляецца старшынёй віцебскага грамадскага аб'яднання «Рускі дом».

Спадар Герашчанка паведаміў, што ў сустрэчы «браў удзел як фізічная асоба». Усяго, паводле яго словаў, прысутнічала пятнаццаць чалавек «казакоў і расійскіх суайчыннікаў». «Больш прадзяржаўныя», як ён выказаўся, арганізацыі не прыйшлі.

### «Антырасійскі помнік»

Асабіста Герашчанка гатовы пагадзіцца на ўсталяванне помніка Альгерду, аднак толькі «ў звязцы з помнікамі Аляксандру Неўскаму і княгіні Вользе» (раней былі такія планы). «А так выходзіць, што антырасійскі ў большай ступені помнік усталёўваецца, а гэтыя — не». На яго думку, калі паставіць толькі помнік Альгерду, «гэта не будзе добра для нашай грамадзянскай згоды».

За што ж «суайчыннікі» не любяць Альгерда? «Першая праблема — яго стаўленне да праваслаўных: калі ў паганскім лесе забілі трох святых», — кажа Герашчанка. Паводле яго словаў, на сустрэчы зачытвалі дакумент, у якім усталяванне помніка асуджае Беларускі Экзархат РПЦ. «Ён быў падпісаны менавіта Філарэтам, дзе дастаткова негатыўна гаварылася пра магчымую ўстаноўку помніка Альгерду. У негатыўным сэнсе як да гістарычнага персанажа. Але я не магу сказаць, калі ён быў напісаны і з якой мэтай», — кажа Герашчанка.

Было б дзіўна, калі б дакумент адлюстроўваў афіцыйную пазіцыю праваслаўнай Царквы. Якраз пры Альгерду ў Вільні з'явіліся першыя праваслаўныя храмы, выява вялікага князя і яго жонкі Улляны і цяпер ёсць у Міхайлаўскай царкве, а сам князь, паводле некаторых крыніц, перад смерцю прыняў схіму — стаў праваслаўным манахам.

«Альгерд фактычна ўвесь час займаўся захопніцкімі паходамі. Я не сказаў бы, што ён шмат для Віцебска зрабіў. Будаваў замкі. Але рабіў не для таго, каб добраўпарадкаваць Віцебск, а каб было ў яго апорнае месца», — кідае абвінавачанне за абвінавачаннем Герашчанка. Так і ўяўляецца, як у XIV стагоддзі князь, замест гарадскіх сцэнаў, будуе лядовы палац і кладзе плітку.

«Расійскія суайчыннікі» пастанавілі звярнуцца да ўладаў з прапановай не ставіць помнік Альгерду. «Усё-такі, калі не вырашана пытанне з двума іншымі помнікамі, гэта не вельмі добра будзе. Тым больш, у бок Расіі напярэдадні «Славянскага базара», — кажа Герашчанка.

### «Альгерд, несумненна, быў праваслаўным»

«Руския бутафорскія арганізацыі ўмешваюцца ў нашу гісторыю, грамадскае жыццё, — так каментуе заяву гісторык Алесь Краўцэвіч. — У гісторыі нашай краіны Альгерд — станоўчая фігура. Гэта князь, які Віцебск будаваў, мацаваў нашу дзяржаву, які «прыструніў» Маскву. Бо самая невялікая небяспека для краіны была з боку Масквы.

Гэта легенда, што Альгерд забіў праваслаўных святых. Альгерд, несумненна, сам быў праваслаўным. Па-першае, маці яго — полацкая князёўна: Па-другое, нельга было княжыць у Віцебску і не быць праваслаўным, як і ў Полацку.

І проста смешна, што расійцы дыктуюць нам, каму помнік ставіць, а каму не. Аляксандр Неўскі абсалютна не мае дачынення да нашай гісторыі. А помнікі княгіні Вользе і Неўскаму хочуць паставіць тут таму, што гэтага хоча Расійская праваслаўная царква», — адзначае навуковец.

### Гарвыканкам: рашэнне ніхто не адмяняў

Якім жа будзе помнік Альгерду ў Віцебску? Канчатковы варыянт трымаецца ў сакрэце. Але год таму ў СМІ трапіў адзін з першых эскізаў: вялікі князь быў выяўлены на грозным рыцарскім кані, з сокалам на правай руцэ. «Я максімальна браў усе крыніцы, якія ўдалося знайсці. У тым ліку летапісныя апісанні Альгерда: тонкі нос, глыбокія вочы...» — кажа скульптар Валерый Магучы.

Як паведамілі карэспандэнту «НН» у аддзеле культуры Віцебскага гарвыканкама, рашэнне пра ўсталяванне помніка ніхто не адмяняў. Цяпер праект знаходзіцца на стадыі зацвярджэння мадэлі. Задача стаіць — да 1 чэрвеня помнік паставіць.

**Сяргей Макарэвіч**

---

**Альгерд**

(1296? — 1377) — вялікі князь літоўскі, сын Гедыміна. Валодаў Віцебскам, Крэвам, пакуль не стаў вялікім князем. У часе яго кіравання (1345—1377) тэрыторыя ВКЛ вырасла ўдвая за кошт паўднёвых і ўсходніх земляў. Ваяваў з Тэўтонскім ордэнам і Маскоўскім княствам. Перамог татараў на Сініх водах (1362). Ад двух жонак (Марыі Віцебскай і Улляны Цвярской) меў 12 сыноў, у тым ліку Ягайлу, Андрэя Полацкага, Скіргайлу, Свідрыгайлу, Уладзіміра.



**Князь Альгерд на помніку «1000-годдзе Расіі» ў Вялікім Ноўгарадзе. Манумент паўстаў у 1862. Расійскае самадзяржаўе не баялася прызнаваць літоўскіх князёў часткай гісторыі.**

**Не чужы і Расіі**

Першую «княскую практыку» Альгерд атрымліваў у Усвятах (цяпер Пскоўшчына), запрашалі яго і ў сам Пскоў. Альгерд адмовіўся, паслаўшы замест сябе сына Андрэя.

**Дзіда ля маскоўскай брамы**

Паводле «Хронікі Быхаўца», у 1370 Альгерд, у адказ на пахвальбу маскоўскага князя Дзмітрыя Іванавіча быць у Літве «па краснай вясне, па ціхім лецe», раптоўна з'явіўся пад Масквой на Вялікдзень і прыхіліў сваю дзіду да маскоўскіх муроў. А Дзмітрый мусіў адкупіцца ад ліцвінаў.

**За помнік Альгерду ў Віцебску!**

Суполка з такой назвай з'явілася ў сацыяльнай сетцы «Укантакце». Яе арганізатары заклікаюць звяртацца да гарадскіх уладаў у падтрымку помніка. Яны мяркуюць, што чым больш людзей выкажуцца, тым большая верагоднасць, што помнік з'явіцца. Пісаць лісты заклікаюць на імя старшыні Віцебскага гарвыканкама Віктара Паўлавіча Нікалайкіна (210005, Віцебск, вул. Леніна, 32).

**Алесь Краўцэвіч**

доктар гістарычных навук. Нарадзіўся ў 1958 у Мастоўскім раёне. Скончыў гістфак БДУ і аспірантуру пры Інстытуце археалогіі АН СССР у Маскве. Займаецца гісторыяй ВКЛ. Летась за кнігу «Гедымін (1316–1341). Каралеўства Літвы і Русі» атрымаў ад Беларускага ПЭН-цэнтра прэмію імя Францішка Багушэвіча.

# Сяржант міліцыі спланаваў злачынства дзесяцігоддзя

**Падрабязнасці** гучнага абрабавання банка ў Любані.

Гэты дзёрзкі, як у амерыканскіх баевіках, налёт на аддзяленне «Белаграпрамбанка» ў Любані ўжо называюць злачынствам дзесяцігоддзя. Нават праз тыдзень пасля здарэння дакладная сума скрадзенага не падлічаная. Але яна ніяк не меншая за мільярд рублёў, 40 тысяч даляраў і 20 тысяч еўра. Зніклі і срэбныя зліткі.

У той дзень банк працаваў толькі з юрыдычнымі асобамі — прадпрымальнікі здавалі выручку. Меркавалася, што ўсё дабро злачынцы раздзеляць на траіх: па колькасці саўдзельнікаў.

Двух падазраваных затрымалі праз чатыры дні ў Любані — мясцовыя жыхары 1990-га і 1991-га гадоў нараджэння. Яны былі моцна здзіўленыя, калі на парозе ўбачылі міліцыю: не чакалі, што іх выверааны план праваліцца. Адзін з затрыманых — 23-гадовы сяржант Дэпартамента аховы МУС. Ён і лічыцца арганізатарам рабунку. Хлопец раней працаваў у гэтым самым аддзяленні банка, ведаў тонкасці працы сістэмы аховы ды камер назірання. А перад налётам здолеў вырабіць дублікаты ключоў.

Злачынцы зайшлі ў гараж банка задоўга да пачатку працоўнага дня і затаіліся там у інкасатарскай машыне. А ўвечары надзелі маскі, уварваліся ў банк, абясшкодзілі супрацоўніка аховы — збілі і забралі пісталет, — звязалі касіра. З нарабаваным яны з'ехалі ў той самай інкасатарскай машыне, у якой хаваліся цэлы дзень. У лесе, за дваццаць кіламетраў ад горада, іх чакала іншае аўто. Перш чым перасесці ў яго, яны спалілі інкасатарскую машыну.

Праз тыдзень затрымалі і трэцяга саўдзельніка — таксама жыхара Любані 1983 года нараджэння. Мяркуецца, што ён парушыў папярэднюю дамоўленасць — не дзяліць нарабаванае, пакуль усё не сціхне, — і з часткай грошай збег. Па словах следчых, рабаўнікі распрацавалі цэлы план па легалізацыі грошай. Але ён так і застанецца задумкай...

Вядома, што затрыманы сяржант міліцыі прыйшоў у Дэпартамент аховы пасля войска. Працаваў ён не больш за тры гады. Увогуле, падчас прыёму ў ахову звышпатрабаванняў да кандыдатаў не выстаўляюць. Дастаткова быць грамадзянінам Беларусі, скончыць школу, адслужыць у войску (можна без войска, але з дыпломам ВНУ) і быць не старэйшым за 25 гадоў.

Крымінальную справу завялі за рабаўніцтва і крадзеж зброі. Пісталет Макарава, дарэчы, знайшлі ў канаве: хлопцы выкінулі яго туды пасля налёту. А грошы яны хавалі ў вёсцы непадалёк ад Любані. Калі іх віну дакажуць, то за кратамі ім давядзецца правесці да пятнаццаці гадоў.

**Сяргей Макарэвіч**

## Вышук



**Мінчук** падазраецца ў крадзяжы ноўтбука: затрымалі пры спробе яго прадаць. Ён скраў ноўтбук у інтэрнаце на пр-це Незалежнасці. Мужчына раней судзімы. Міліцыянты не выключаюць, што гэты чалавек мае дачыненне і да іншых крадзяжоў.

Хто пацярпеў ад мужчыны, тэлефанаваць у Савецкае РУУС Мінска на (017) 292-02-02.



**52-гадовага мінчука** затрымалі па падазрэнні ў распусце. Мужчына сфатаграфаваў на мабільнік свой палавы орган, а пасля паказваў фота 12-гадовым школьніцам на вуліцы Каліноўскага. Вядома, што гэта не адзінкавы падобны выпадак.

Хто пацярпеў ад гэтага мужчыны, тэлефануйце ў Першамайскае РУУС на (17) 280-02-02.



АУС Наваполацкага гарвыканкама шукае **Хрысціну Канстанцінаўну Бяляцкую**, жыхарку Наваполацка. У кастрычніку 2010 яна выехала ў в. Клясціцы Расонскага раёна, і яе больш не бачылі. Прыкметы: на выгляд 18—20 гадоў, рост каля 160 см, даўгія валасы, у абодвух вушах мноства праколаў.

Хто валодае інфармацыяй пра зніклую, тэлефануйце на (0214) 53-04-98.

## Справа супраць салдата, які ваяваў з дзедаўшчынай, скончылася замірэннем

Мінскі міжгарнізонны вайсковы суд пастанавіў спыніць крымінальную справу супраць салдата Акіма Бяняша, які паўстаў супраць дзедаўшчыны. Суд задаволіў хадайніцтва абодвух бакоў аб прымірэнні, хоць пракурор прасіў для Бяняша 3 месяцы арышту.

Акіма вінавацілі ў тым, што ён у прыбіральні набіў фінгал Арцёму Амельчанку, кіроўцу з інжынерна-тэхнічнага ўзвода. Амельчанка кажа, што Бяняш абразіў яго, кінуўся і ўдарыў у плячо і ў вока.

Паводле Акіма, у часці панавала жорсткая дзедаўшчына, якая ў многім трымалася на пляменніку камандзіра часці. У Акіма пастаянна ўзнікалі канфлікты са старэйшым прызывам. Апагея яны дасягнулі 12 лістапада 2012, калі службоўцы пачалі масавую бойку падчас прагляду «Панарамы», Бяняша збілі, забралі гадзіннік, які падаравала маці.

«У прыбіральні я сустрэўся з Амельчанкам і папрасіў яго пагутарыць з «дзядамі», каб мне вярнулі гадзіннік», — казаў Бяняш у судзе. Чаму не пайшоў да кіраўніцтва? Каб не палічылі «шасцёркай». «Амельчанка мацюкнуўся і ўдарыў мяне ў грудзі, — працягваў Бяняш. — Я баксёр і машынальна ўдарыў у адказ, а калі той прысеў і закрычаў «пацаны, пацаны», я сышоў, бо баяўся што саслужбоўцы Амельчанкі мяне жорстка паб'юць». Паводле яго словаў, кіраўніцтва часці загадала ўсім удзельнікам сінхранізаваць паказанні і паабяцала «замяць» сітуацыю. Не атрымалася.



Акім Бяняш з маці.

Дарэчы, в/ч 30151 сумнавядомая: у гэтай самай часці (хоць і ў яе заслаўскім падпадзяленні) у 2009 годзе пасля збіцця «дзядамі» загінуў 20-гадовы вайсковец тэрміновай службы Валеры Шкут.

**Кірыла Хілько**

## Знайшлі, калі растаў снег

Загадкавая гібель навучэнца ашмянскага каледжа.

22-гадовы Максім знік 9 студзеня. Ён вяртаўся з Ашмянаў з каледжа дадому ў вёску Луды. На аўтобусе даехаў да цэнтра сельсавета, вёскі Граўжышкі. Адтуль мусіў дайсці пешкі — родная вёска ляжыць яшчэ паўднёвей за Граўжышкі, на самым ускрайку раёна. Але дома Максім так і не з'явіўся. Замест гэтага, ён чамусьці пайшоў у процілеглым кірунку. Пазней, тым самым вечарам, Максіма бачылі ў вёсцы Гароднікі, што між Граўжышкамі і Ашмянамі, за цэлых шэсць кіламетраў ад сельсавета. Было ўражанне, што хлопец вяртаўся ў Ашмяны, кажуць сведкі.

Яго цела і знайшлі каля Гароднікаў у полі, калі сышоў снег. Мясцовы жыхар гуляў з сабакам і натрапіў на Максіма. Слядоў гвалтоўнай смерці на целе няма, кажуць праваахоўнікі.

«У Максіма былі канфлікты з аднагрупнікамі, таму хадзілі розныя чуткі пасля яго знікнення, — расказаў адзін з навучэнцаў каледжа. — Але думаю, што гэта ўсё трызненне. Міліцыя нас усіх апытвала». Куды ішоў Максім у апошні дзень жыцця? Пакуль гэта загадка.

**КМ**

## Фотафакт




Электрацягнік няўдала «прыпаркаваўся» на 24-м пуці на чыгуначным вакзале ў Мінску. 27 красавіка ён мусіў у 17.27 адправіцца да станцыі Аляхновічы. Па словах пасажыраў, электрычка кранулася наперад, а пасля здала назад. У выніку быў пашкоджаны перон. У электрычцы нязначна пагнуўся пуцеачышчальнік. Ніхто не пацярпеў. БЧ яшчэ высвятляе прычыну здарэння.

## Сціsла

### Аднарукі мінчук разбіў аўто

Аварыя адбылася на вуліцы Кальварыйскай. Subaru спрабавала адарвацца ад машыны ДАІ, калі наехала на бардзюр і стукнулася ў ліхтарню. Кіроўца быў моцна п'яны і ў дадатак не меў правай кісці. Аднаго пасажыра шпіталізавалі, другі пасля сутыкнення збег. А сам кіроўца не пацярпеў. Высветлілася, што хлопец перад гэтым выпіваў у кампаніі, а ключы ад аўто скраў у маці. Пасведчання кіроўцы ў яго ніколі не было.

### Школьнік падарваўся на гранаце

10-гадовы школьнік з Бабруйска побач з домам знайшоў запал ад гранаты РГД-5. Знаходка хоць і была бяспечнейшая за саму гранату, але выбухнула (запал служыць для дэтанацыі выбуховага рэчыва ў гранаце). З раненнем галёнкі школьніка шпіталізавалі.

### Чарговы мэр пад следствам

Старшыня Жыткавіцкага райвыканкама Мікалай Какора адпраўлены ў адстаўку за «грубае парушэнне службовых абавязкаў і правіну, што не можа сумяшчацца са знаходжаннем на дзяржслужбе». Ягоныя дзеянні нанеслі шкоду не менш чым на 100 мільёнаў рублёў. Вырашаецца, ці заводзіць крымінальную справу.

### Дзіўнае самагубства

У вёсцы Асмаловічы Клімавіцкага раёна зрабіў сабе смерць 16-гадовы вучань 9-га класа. Хлопец быў сіратой і чатыры гады выхоўваўся ў сям'і апекуноў. Яны і знайшлі яго побач з домам. Перадсмяротнай запіскі школьнік не пакінуў. У вёсцы і ў школе сям'я характарызуецца станоўча.

### Забілася сама і пакалечыла сына

Пад Валожынам мінчанка на «Хондзе» не дала рады кіраванню і выехала ў кювет. Машына некалькі разоў перавярнулася. Жанчына загінула на месцы, а яе пяцігадовы сын з цяжкімі траўмамі галавы і пераломам сцягна знаходзіцца ў рэанімацыі. Высветлілася, што яна не мела правоў кіроўцы.

**КМ**

## ФУТБОЛ

### 7 тур

**4—5 мая** адбудуцца чарговыя гульні Чэмпіянату Беларусі па футболе.
**У суботу** сустракаюцца:
«Мінск» — «Дынама» (Брэст);
«Дняпро» (Магілёў) — БАТЭ (Барысаў);
«Нафтан» (Наваполацк) — «Нёман» (Гродна).
**У нядзелю:**
«Шахцёр» (Салігорск) — «Белшына» (Бабруйск);
«Гомель» — «Славія» (Мазыр);
«Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна) — «Дынама» (Мінск).

## КАНЦЭРТЫ

### Вяртанне легенды

**6 мая а 18-й у Re:Public (Прытыцкага, 62)** зайграюць «Крама», Neuro Dubel, :B:N: і Pomidor/OFF.

### Можна

**11 мая а 18-й у клубе Re:Public (Прытыцкага, 62)** — фестываль «Можна». Бяруць удзел Rockerjoker, Dj Лёка Паўлёка і «нагУаль», Shuma, Ягор Забелаў і Уладзімеж Кянёрскі, «Кассиопея», «Серебряная свадьба».

### Стары Ольса

**11 мая ў 15.30 у Нясвіжскім замку** выступае гурт «Стары Ольса».

### Вясна by

**2 мая а 20-й у рок-клубе TNT (Рэвалюцыйная, 9)** — «Вясна by». Вас чакаюць фолькмадэрн «Палаца», шляхетныя танцы «Яварыны» і сярэднявечная электроншчына ад PAWA.

# У Стакгольме без лідараў

Ад 3 да 19 мая ў Швецыі і Фінляндыі пройдзе 77-ы **Чэмпіянат свету па хакеі.**

Другі год запар спаборніцтвы прымаюць гэтыя дзве краіны. Так выйшла, што спачатку гаспадаром турніру абралі фінаў, пасля — шведаў. Пазней краіны вырашылі аб'яднаць свае намаганні.

Летась беларусы гулялі ў Хельсінкі, сёлета згуляюць у Стакгольме.

Другі год запар спаборніцтвы будуць праходзіць па новай схеме: дзве групы па восем каманд. Найлепшыя чатыры выходзяць у чвэрцьфіналы, а найгоршая з кожнай групы вылятае ў дывізіён ніжэй. Летась беларусы цудам засталіся ў эліце, дзякуючы цяжкой перамозе над казахамі, а вось усім астатнім прайгралі.

Упершыню на чэмпіянат свету нашу каманду павязе трэнер Андрэй Скабелка. Той самы, пад кіраўніцтвам якога мы не прайшлі на Алімпіяду ў Сочы.

Беларусы ніяк не вылецяць сёлета з сусветнай эліты, бо наступны чэмпіянат у Мінску. Склад зборнай будзе вельмі эксперыментальным. Не даехалі амаль усе легіянеры, што гуляюць у Расіі (Калюжны, Дзямагін, Сціпанаў, Коваль, Андрэй Касціцын). Затое будзе шмат гульцоў з беларускага першынства.

**Расклад гульняў Беларусі:**

3 мая. Чэхія — Беларусь. Пачатак а 17:15.
5 мая. Беларусь — Славенія. Пачатак а 13:15.
6 мая. Швецыя — Беларусь. Пачатак а 21:15.
10 мая. Беларусь — Канада. Пачатак а 21:15.
11 мая. Нарвегія — Беларусь. Пачатак а 21:15.
13 мая. Данія — Беларусь. Пачатак а 17:15.
14 мая. Беларусь — Швейцарыя. Пачатак а 13:15.

Трансляцыі будуць на тэлеканале «Беларусь-2».

**Зміцер Панкавец**




**Рысь Айсі — талісман першынства.**



### Млын моды

**3 і 4 мая ў Палацы спорту (пр. Пераможцаў, 4)** — фінал XXII рэспубліканскага фестывалю-конкурсу моды і фота «Млын моды». У праграме фестывалю 3 мая (пачатак а 15-й) — паказ 111 беларускіх калекцый вопраткі, адкрыццё выставы ўдзельнікаў намінацыі «Фота»; 4 мая (пачатак а 17-й) — паказ калекцый пераможцаў і прызёраў, гала-канцэрт з удзелам гуртоў «Стары Ольса» і Drum Ekstasy і тэатраў сучаснай харэаграфіі з Вялікабрытаніі, Італіі, Францыі, Польшчы, Расіі, Латвіі і Украіны.




### На Юр'я

**6 мая а 19-й у Маладзёжным тэатры эстрады** — выступае ансамбль «Грамніцы» з праграмай «На Юр'я».

### Pochwalone

**2 мая а 19-й у клубе «Салтайм» (пр. Незалежнасці, 131/1)** — канцэрт польскага гурту Pochwalone (фолк-панк).

## ІМПРЭЗЫ

### Напрыканцы канца...

**Да 15 мая ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва (пр. Незалежнасці, 47)** праходзіць Міжнародны фестываль савер-сізму і ігдрасілізму ДАХ-КРАХ-ХХ «Напрыканцы канца...». ДАХ нарадзіўся ў берлінскай артсядзібе «Тахелес» у 2001 годзе, дзе ўпершыню прайшоў як, магчыма, адна з самых буйных выставак беларускага мастацтва па-за межамі краіны.

### «З глебы на прастор прабіцца...»

**2 мая а 17-й у Літаратурным музеі Максіма Багдановіча (Багдановіча, 7а)** адбудзецца прэзентацыйная вечарына па старонках часопіса «Нёман». У імпрэзе возьмуць удзел Алесь Бадак, Міхась Пазнякоў, Анатоль Кудравец, Аксана Спрынчан, Юрась Сапажкоў, Наталля Капа, Вольга Базылёва, Павел Астравух і Дар'я Лёсава.

## ВЫСТАВЫ

### Не па-дзіцячы

**Да 7 мая ў Палацы дзяцей і моладзі (Старавіленскі тракт, 41)** працуе выстава «Не па-дзіцячы», прысвечаная зніклым дзецям. Вы ўбачыце 9 гісторыяў, 9 аповедаў аб пошуках зніклых дзяцей. На жаль, не ўсе яны скончыліся выратаваннем, некаторыя не скончаныя і цяпер. А таксама вы даведаецеся, што рабіць, каб вашае дзіця не згубілася, і што рабіць, калі такая бяда ўсё-ткі вас напаткала.

### Скарбы шляхецкіх архіваў

**Да 12 мая ў Гістарычным музеі (Маркса, 12)** працуе выстава «Скарбы шляхецкіх архіваў» — з прыватнага збору Ігара Сурмачэўскага.

### Пуцін з воску

**Да 12 чэрвеня ў Гістарычным музеі** працуе выстава «Гістарычная мазаіка» — сумесны праект з музеем гісторыі Санкт-Пецярбурга «Петрапаўлаўская крэпасць». На экспазіцыі паказаныя васковыя фігуры дзяржаўных, палітычных дзеячаў Расіі ад Пятра І і да Уладзіміра Пуціна.

### Кніжная спадчына Радзівілаў

**Да 12 мая ў Нясвіжскім палацавым ансамблі** працуе выстава «Кніжная спадчына Радзівілаў». 90 рэдкіх кніг з княжацкай бібліятэкі на некаторы час вернуцца ў сцены былой рэзідэнцыі «некаранаваных каралёў».

## ТЭАТРЫ

### 2 мая

**Беларускай драматургіі** — «Ліфт»
**Купалаўскі** — «Людзі на балоце»
**Юнага гледача** — «Крыху пяшчоты»

### 3 мая

**Оперы і балета** — «Рамэа і Джульета»
**Беларускай драматургіі** — «Адамавы жарты»
**Купалаўскі** — «Офіс»

### 4 мая

**Лялек** — «Марозка»
**Беларускай драматургіі** — «Адэль»
**Купалаўскі** — «Офіс»

### 5 мая

**Лялек** — «Піпі-Доўгаяпанчоха»

### 6 мая

**Оперы і балета** — «Рамэа і Джульета»
**Беларускай драматургіі** — «Містар Розыгрыш»
**Купалаўскі** — «Арабская ноч»

### 7 мая

**Беларускай драматургіі** — «Белы анёл з чорнымі крыламі»
**Оперы і балета** — «Чароўная флейта»

### 8 мая

**Оперы і балета** — «Лебядзінае возера»
**Беларускай драматургіі** — «Дажыць да прэм'еры»

### 10 мая

**Оперы і балета** — «Лебядзінае возера»

### 11 мая

**Лялек** — «Мыйдадзір»

### 12 мая

**Лялек** — «Чароўная лямпа Аладзіна»
**Оперы і балета** — «Аіда»
**Купалаўскі** — «Самотны захад»

## КІНО

### Вельмі страшнае кіно-5

**Жанр:** камедыя
**Рэжысёр:** Малкольм Д. Лі
**Акцёры:** Тэры Крус, Кейт Уолш, Ліндсі Лохан, Чарлі Шын, Эшлі Тысдэйл
ЗША, 2013, 85 хв.

Маладая пара Дэн і Джодзі пачынаюць заўважаць некаторыя дзіўныя рэчы, калі прыносяць сваё нованароджанае дзіця Айдэна дадому з лякарні. Але калі нарастаюць праблемы і хаос у працы Джодзі і кар'еры Дэна, яны разумеюць, што іх сям'ю пераследуюць гнюсныя дэманы. Разам з радай сертыфікаваных спецыялістаў і з дапамогай шматлікіх камер яны павінны высветліць, як пазбыцца ад гэтых істот, пакуль не стала занадта позна.



# Куды падзеліся «сапраўдныя мужчыны»?

Жанчыны самі **ствараюць «падабцаснікаў»**.

Жанчыны ўсё часцей скардзяцца на недахоп у грамадстве сапраўдных «альфа-самцоў» — маўляў, усе вартыя прадстаўнікі супрацьлеглага полу ўжо занятыя. Наколькі гэтая праблема актуальная? Гутарым з сэксолагам Дзмітрыем Капусціным.




Сяргей Гудзілін

### Усе праблемы родам з дзяцінства

«Калі чалавек нараджаецца, то адразу трапляе ў сацыяльнае асяроддзе, — распавядае Дзмітрый Капусцін. — Яно робіць з нас тых мужчын і жанчын, якія патрэбныя грамадству. Дзвесце гадоў таму гэта былі адныя ўстаноўкі, трыццаць гадоў таму — другія, цяпер — трэція. Але ў любы час мужчына заставаўся мужчынам.

Ён павінен быць лідарам і па жыцці, і ў сям'і. Хіба бываюць два дырэктары на заводзе? Кіраўнік адзін, а астатнія могуць быць намеснікамі — так і ў зносінах. Калі людзі пачынаюць жыць разам, яны прыстасоўваюцца адно да аднаго. Калі камусьці падабаецца падпарадкоўвацца, ён кажа: «Я буду адказны за тое, каб выносіць смецце і забіваць цвікі, а ты вырашай усё астатняе». Ці наадварот. Такія прынцыпы паводзінаў у сям'і закладаюцца з маленства.

Нашае выхаванне накіраванае на тое, каб падрыхтаваць дзяцей для жыцця. Маці з бацькам на 50—60% закладваюць сістэму ўзаемаадносінаў дзіцяці з будучым партнёрам. Далёка не заўсёды адносіны, якія дэманструюць бацькі, задавальняюць дзіця, і тады даводзіцца шукаць прыклады па-за межамі сям'і.

Усе праблемы ўзнікаюць ад бацькоў: якія гены закладзеныя, які прыклад дзіця бачыла. У першыя тры-чатыры гады жыцця вырашаецца, якімі будуць зносіны з супрацьлеглым полам, пасля адбываецца толькі карэкціроўка. Да 12—13 год, калі фарміруюцца больш аднаполыя кампаніі, вобраз мужчын і жанчын даробліваецца».

### Маці-лідар — гора ў сям'і?

«Хлопчыкам кажуць: «Ты адказны за ўсё у жыцці: за сябе, за жанчыну, за дзяцей», — працягвае Дзмітрый Капусцін. — Дзяўчынцы не кажуць, што яна абаронца. Яна чуе: «Ты — асоба, у цябе павінна быць сваё меркаванне». Ахвяраваць сабой, клапаціцца, быць пяшчотнай — навошта? Табой жа карыстаюцца! Тваёй дабрынёй, увагай... І хто гэта кажа? Часцей за ўсё — сям'я.

Адсюль такі вынік: дзяўчынкі робяцца больш самадастатковымі, упэўненымі, яны ставяць сабе высокія мэты. Не хутка выйсці замуж, нарадзіць дзяцей, жыць іх жыццём, а быць самастойнай. А калі ўзнікае праблема пошуку партнёра, паўстае новае пытанне: «Дзе ўсе мужыкі такія? Дайце каго зламаць пад сябе!»

Калі гэтыя дзяўчаты і знаходзяць мужчыну, то, як правіла, з такіх хлопчыкаў, якім маці казала: «Дзяўчынак нельга крыўдзіць, яны разумнейшыя, яны ўсё ведаюць». Часцей за ўсё такая маці — лідар у сям'і. Хлопчык шукае моцную самадастатковую жанчыну і з-пад спадніцы маці пераходзіць пад спадніцу жонкі. Мо і сэкс у такой сям'і будзе нармальны, але ўсе рашэнні ў сям'і прымае жанчына. Каму дрэнна ад такога раскладу? Ёй добра — яна атрымала тое, што хацела, яна кіруе. Яму добра — ён зноў сядзіць пад спадніцай і ад яго нічога не патрабуюць.

З цягам часу жанчына, якая стала кіраўніком ў сям'і, хоча быць слабой, каб пра яе клапаціліся, а мужчына побач быў моцным. Яе муж можа такое ёй даць? Не. А мужчыны-лідары ўжо з іншымі

**Спаць ёсць з кім — дама альбо знаходзіць падабцасніка, альбо самца-лідара, які імкнецца яе «зламаць»**

жанчынамі. Ды і наўрад ці яны звернуць увагу на такую жанчыну, якая саспела, каб быць слабой.

Тэарэтычна такі выпадак магчымы. Вось яны сустракаюцца, і што — яна адразу стане слабой? Вядома ж, не. Ён будзе імкнуцца яе «зламаць». Але ж і яна закалялася 20—25 год... Барацьба за лідарства будзе цягнуцца далей. Рана ці позна яна скажа: «Бачыце, няма моцных мужчын», а ён: «Як правільна жыць, ведае толькі яна, а я — поўны нуль». Такія жанчыны шукаюць мужчыну мацнейшага за сябе, з цягам часу яго ўраўноўваюць, пасля ламаюць, пасля кідаюць.

А чаму жанчына стала такой? Яна назірала за мамай. Гэта жанчына, якая кінула свайго мужа, зламала яго, выхавала дзяўчынку сама. Ну альбо тата ў яе — падабцаснік.

І хоць дзяўчынцы ўсяго тры гады, яна бачыць, што маці кіруе татам, прыніжае яго. Ён, можа, п'е, але трывае. З цягам часу жанчына такога кідае, маўляў — трапіўся няўдалы нейкі. А тое, што яна сама яго да такога стану давяла, не ўлічвае. І што, у дзіцяці будзе яшчэ дзесяць новых «татаў»? Адзін-два, не болей. І жанчына будзе казаць: куды падзеліся ўсе мужчыны? Маючы на ўвазе: дзе тыя мужчыны, якіх яшчэ можна «зламаць»? Каб ён сустракаў яе з працы і стаяў ля пліты штовечар. Гэта шчасце для жанчыны, і ўсе зайздросцяць.

Такі жыццёвы сцэнар не будзе іншым. Дзяўчынка, калі глядзіць на такую сітуацыю, фарміруе сваё меркаванне. Калі з'яўляецца мужчына з нармальнымі ўстаноўкамі, дзяўчына ўсё роўна працягвае гнуць сваю лінію. Мужчына скардзіцца: «Я што, 40 год пражыў поўным дурнем, і толькі яна ведае, што слушна, а што — не?» Таму такія шлюбы не даўгавечныя».

### Самае галоўнае ў жыцці — адчуваць, што нас любяць

«Я не спецыяліст у вобласці парадаў наконт таго, да якога ўзросту ў жанчыны больш шанцаў выйсці замуж. Але неяк глядзеў праграму накшталт «Лепшая свацця Расіі», і галоўная гераіня сказала: «Дзяўчаты, што вы баіцеся сказаць, што вы — тавар, які хутка псуецца? Вы не каньяк, чым больш дарослымі становіцеся, тым больш страчваеце ў кошце. Можна выдаць замуж любую дзяўчыну ва ўзросце да 25 год, у 27 — праблематычна, пасля 30 шанцаў няма».

Усё ў жыцці павінна быць своечасова. Часам бывае так, што жанчына атрымала вышэйшую адукацыю, пасля рабіла кар'еру і ў 35 гадоў задумалася: хм, чагосьці не хапае. Праца ёсць, грошы ёсць — а сям'і няма! Спаць ёсць з кім — такая дама альбо знаходзіць падабцасніка, альбо самца-лідара, які імкнецца яе «зламаць». Першы яе не задавальняе, а другі не хоча ўтвараць сям'ю.

Арганізоўваць сям'ю неяк трэба, а яна не арганізоўваецца! Тут і пачынаецца песня: мужыкоў нармальных няма, а трэба завесці дзіця. А пасля жанчына не сядзіць з ім, не выхоўвае тры гады, а праз месяцдругі зноў бяжыць рабіць кар'еру.

Самае вялікае няшчасце — калі няма мамы. Мама павінна быць клапатлівай, пяшчотнай, уважлівай да дзіцяці, аддаваць яму як мінімум адзін год жыцця. Бо ў першы год фарміруецца і стаўленне да людзей, і разуменне любові. Чалавек разумее, што такое любоў, толькі на руках у мамы. Калі мы адчуваем, што нас любяць — гэта самае галоўнае ў жыцці. Гэта дае ўпэўненасць, што і я магу любіць, і ёсць такія людзі.

А калі маці пакарміла і кінула, дзіця з цягам часу адасабляецца ад усіх, становіцца нячулым, лічыць, што трэба любіць толькі сябе. Такі чалавек вырастае спажывальнікам. Ён хоча, каб яму штосьці далі, прычым не адна маці, а ад кожнага патрошкі: цукерку цётка, цацку дзядуля... Ці будзе такое дзіця любіць цётку, дзеда? Яны ўсе для яго аднолькавыя, галоўнае — атрымаць тое, што яму трэба, атрымліваецца гэткая маральная прастытуцыя. Такі чалавек выкарыстоўвае лю-дзей навокал сябе. Часцей за ўсё такія асобы вырастаюць у сям'і, дзе маці не любіць сваё дзіця.

Цяпер мамы больш самастойныя, атрымліваюць асалоду ад жыцця. Чаму толькі мужчыны маюць на гэта права? Але аддай хаця б тры гады жыцця дзіцяці, а пасля ўжо рабі кар'еру!

І вось калі дзіця махне рукой, скажа: «Мама, ідзі, мы з татам разбяромся»... Вось тады гэта дазваляе маці ісці пісаць дысертацыю, на працу ці яшчэ кудысьці. Да гэтага моманту маці і дзіця — адно цэлае. А так маці сама сыходзіць раней, і дзіця, на жаль, гэтага ўжо ніколі не даруе».

**Гутарыла Настасся Храловіч**



**Прырода**

## Зубры паселяцца на Віцебшчыне

Ці адаптуюцца яны **да паўночнага рэгіёна**?

Кіраўніцтва наваполацкай кампаніі «Інтэрсэрвіс» мае намер закупіць каля дзясятка зуброў і завезці іх у паляўнічую гаспадарку «Чырвоны бор», што ў Верхнядзвінскім раёне. Там для жывёл ужо пабудавалі спецыяльныя вальеры.

Плануецца, што зубры ў іх будуць жыць каля года, а пасля будуць выпушчаныя на волю. Паляваць на зуброў ніхто не збіраецца. Гаворка ідзе пра адаптацыю жывёл да паўночнага рэгіёна краіны.

«Чырвоны бор» знаходзіцца на мяжы з Расіяй. Ландшафтны заказнік рэспубліканскага значэння быў створаны каля дзесяці гадоў таму.

**Tut.by**




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

«Чарнобыльскі шлях» сабраў у Мінску да тысячы ўдзельнікаў. Арганізатары зрабілі акцэнт на пратэсце супраць будаўніцтва Астравецкай АЭС. Пра гэта сведчыла частка лозунгаў і зачытаная на мітынгу рэзалюцыя.



Паводка на Сажы: у дачным пасёлку Плёсы пад Гомелем — вады па стрэхі. Усяго па вобласці падтоплена каля трох тысяч падворкаў, восем чалавек давялося эвакуяваць.

**Шаноўныя чытачы! Наступны нумар «НН» выйдзе 15 мая. Удалай Вам пасадкі бульбы!**



На штогадовы фотаконкурс часопіса National Geographic дасланыя першыя здымкі. Гэтага кенгуру зняў Грэхэм МакДжордж.



Пяць прэзідэнтаў ЗША сабраліся разам на адкрыцці Буш-цэнтра ў Тэхасе. Злева направа — Джымі Картэр (быў прэзідэнтам у 1977–1981), Біл Клінтан (1993–2001), Джордж Буш-старэйшы (1989–1993), Джордж Буш-малодшы (2001–2009) і дзеючы прэзідэнт Барак Абама.

## Анекдоты і жарты

* * *

Пачатак мая — гэта калі на адным прыпынку стаяць жанчына ў футры і хлопец у майцы.

* * *

– У мяне нарадзіўся сын!
– Віншую! Як жонка?
– Яна не ведае.

* * *

На майскія святы насельніцтва краіны падзеліцца на два лагеры. Адны будуць садзіць бульбу, іншыя — пячонку.

* * *

Юрый Чыж хавае кнігі ў грошах.

* * *

Маці 11 дзяцей заявіла, што для поўнай калекцыі ёй не хапае Казярога.

* * *

– Дарма адмаўляешся, пельмені даволі прыстойныя.
– Пельмені, можа, і прыстойныя, толькі ўсе астатнія людзі ў кінатэатр бяруць папкорн!

* * *

– Міхась, а ты ў арміі служыў?
– Ды не, Алесь, мяне не ўзялі...
– А чаму цябе не ўзялі?
– А не знайшлі!

* * *

Калі «Мерсэдэс» і надалей будзе развіваць электронную начынку сваіх машын, то хутка яны будуць самастойна з'язджаць з Беларусі назад у Нямеччыну.

* * *

Мой муж герой — прайшоў дзве вайны! Пасля стаміўся. Выключыў камп'ютар і пайшоў спаць.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Галоўнае ўпраўленне турмамі атрымала ад некаторых турмаў праект**, каб устроіць курсы «зладзейскай мовы» для турэмных наглядчыкаў. Апроч таго, галоўнае ўпраўленне турмамі хоча апрацаваць слоўнік зладзейскай мовы. Аказваецца, некаторыя «інородчэскія» мовы акружаюцца нават апекай...

**«НН». №16—17. 1913.**

**Віктар Лукашэнка**, які быў дарадцам аддзела Заходняй Еўропы ў МЗС, спыніў працу 18 красавіка. Афіцыйна звальненне тлумачыцца ўласным жаданнем. Яго заяву падпісаў Сяргей Мартынаў.

**«НН». №17. 2003.**

**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**

 Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. 8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8006. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 30.04.2013.
Замова № 1902.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
ISSN 1819-1614
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12